# ЗЬМЕСТ







# Эфэкт даміно

Напярэдадні другой хвалі глябальнай эканамічнай рэцэсіі Беларусь застыла ў нэрвовым чаканьні. Маўклівыя пратэсты, "СТОП-БЭНЗЫН", народныя сходы – гэта толькі бачная вяршыня айсбэргу. Большасьць беларусаў, нягледзячы на імклівае зьбядненьне, пакуль што не імкнецца публічна пратэставаць. А ўлады, сваёй чаргой, робяць усё магчымае, каб не дапусьціць пашырэньня крытычных настрояў. Дзейнічае кіраўніцтва па старым прынцыпе: з дапамогай перніка і бізуна. Пернік у выглядзе 500 тысячаў на гародніну, сельскагаспадарчых кірмашоў, павелічэньня стыпэндыяў і заробкаў працуе спраўна, але часова. А для тых, хто не ацаніў глыбіні "высакародных" памкненьняў уладаў, ужо падрыхтаваныя папраўкі ў Крымінальны кодэкс, Закон "Аб органах дзяржбясьпекі", Закон "Аб масавых мерапрыемствах" і Закон "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях".

Нашумелая гэтым летам інтэрнэт-ініцыятыва РЧСС (Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі) выплюхнула на вуліцы і плошчы беларускіх гарадоў тысячы незадаволеных грамадзянаў. Многія зь іх упершыню ў жыцьці сьвядома ўдзельнічалі ў пратэсьце супраць сацыяльна-эканамічнай палітыкі ўраду. Улада дзейнічала прадказальна, паводле ўсіх канонаў аўтарытарнага жанру: бескампрамісна і жорстка. Аналітыкі небеспадстаўна лічаць, што менавіта жорсткасьць абыходжаньня з удзельнікамі маўклівых акцыяў задушыла пратэст у самым зародку. У далейшым ані энтузіязм сеціўных актывістаў, ані спробы далучыцца да гэтай ініцыятывы прадстаўнікоў клясычнай апазыцыі не выратавалі РЧСС ад паступовага згасаньня. Падобны лёс напаткаў і рэзанансную акцыю аўтамабілістаў "СТОП-БЭНЗЫН". У краіне некалькі мільёнаў уладальнікаў прыватных аўто. Аднак абуранасьць аўтааматараў ад дзявятага па ліку падаражаньня паліва ад пачатку года таксама вылілася не ў дэманстрацыю, а ў даўжэзныя чэргі на запраўках. Ніводная з гэтых кампаній так і ня стала той косткай даміно, падзеньне якой магло б абрынуць лінейныя шэрагі іншых фішак.

Часопіс "Асамблея" яшчэ ў канцы 2008 года зьвяртаўся з апытаньнем да лідэраў некаторых сацыяльных аб'яднаньняў адносна таго, ці ўлічваюцца ў дзейнасьці іхных арганізацыяў рэаліі крызісу. Аніводнага станоўчага адказу тады не было атрымана. Калі нават "авангард" соцыюму знаходзіцца ў летаргічным сьне, то наіўна чакаць імпэту ад грамадзянаў, якія ня маюць досьведу актыўнага і пасьпяховага сацыяльнага дзеяньня. Аддадзенае само сабе грамадзтва хоць і павольна, але вучыцца абараняць інтарэсы самастойна. На жаль, без грамадзкіх лідэраў і на дыстанцыі ад большасьці дэмакратычных НДА. Эфэкт даміно адбудзецца тады, калі ўлада замахнецца на ініцыятыву, якая насамрэч карыстаецца шырокай падтрымкай розных катэгорый насельніцтва. І ніякія наўпроставыя рэпрэсіі разам з "драконаўскімі" законамі ня спыняць працэс падзеньня хісткай канструкцыі, збудаванай з дапамогай няўстойлівых костак даміно. ■

**Мікола Бянько, Юлія Сівец**

# Захапі Ўол-Стрыт: "Гэта рэвалюцыя"




AFP

удзельнікі паказваюць карпаратыўных зомбі падчас акцыі пратэсту

Пачынаючы з верасьня сотні дэманстрантаў руху "Захапі Ўол-Стрыт" ператварылі ціхі парк Зукоці ў ніжнім Манхэтане зь месца, дзе трэйдэры Ўол-Стрыт адпачывалі падчас абедзенных перапынкаў, у дэманстрацыйны лягер. Удзельнікі з усіх куткоў Злучаных Штатаў далучыліся да руху, які крытыкуе несправядлівасьць капіталістычнай сыстэмы і заклікае да большай дэмакратыі і свабоды асобы.

"Гэта дэмакратычнае абуджэньне", — сказаў журналістам Корнэл Вэст, вядомы актывіст і прынстанскі прафэсар, выступаючы перад натоўпам, які пратэставаў на Генэральнай асамблеі "Захапі Ўол-Стрыт".

"Мы спрабуем стварыць тое грамадзтва і тую культуру, якія мы хацелі б бачыць у сьвеце", — растлумачыў Ішам Крысьці, студэнт катэдры тэорыі кіно і філязофіі Выпускнога цэнтру Гарадзкога ўнівэрсытэта Нью-Ёрка (CUNY) і арганізатар пратэсту, называючы гэта "барацьбой за справядлівы сьвет". "Людзі, якія пачуваюцца адчужанымі ад грамадзтва спажываньня, або ня маюць працы, або валацугі... могуць прыйсьці сюды і знойдуць падтрымку, — заявіў Крысьці. — Мы спрабуем пабудаваць альтэрнатыву эксплюататарскаму, прыгнятальніцкаму і капіталістычнаму грамадзтву, у якім мы жывем".

Аджой, які пераехаў з Фларыды ў Нью-Ёрк усяго некалькі дзён таму, дадаў: "Я супраць аднаго адсотка людзей, якія валодаюць усёй краінай, і мяне больш ніхто не хвалюе". Аджой лічыць, што погляды пратэстоўцаў сугучныя ідэям, якія спавядалі контракультурныя рухі 1960-х і 1970-х, а таксама такіх актывістаў, як Марцін Лютэр Кінг-малодшы і Глорыя Стэйнам.

Вэст адзначыў разнастайнасьць дэманстрантаў, сказаўшы: "Гэта вельмі ўзрушвае — бачыць усіх гэтых людзей рознага колеру скуры, рознага полу, рознай сэксуальнай арыентацыі і культур усіх разам тут, на Лібэрці-Плаза". ■

**Хрысьціян Папэш, Інтэрпрэс-сэрвіс**

# Акцыі "Рухай плянэту" ад Канады да Нэпалу

Больш за 300 актывістаў утварылі ў Парыжы гіганцкую ветраную турбіну, патрабуючы ад лідэраў краіны чыстай і бясьпечнай энэргіі. Дэманстрацыя каля Эйфэлевай вежы сталася часткай праграмы Глябальнага дня дзеяньняў па праблемах зьмены клімату, арганізаванага парталам 350.org, а таксама больш чым сотняй групаў і няўрадавых арганізацыяў ва ўсім сьвеце, уключаючы Грынпіс.



www.350.org

"Аднаўляльныя крыніцы энэргіі, пры ўмове іх умелага выкарыстаньня, могуць і будуць адпавядаць патрабаваньням чалавецтва", — гэтае паведамленьне актывісты Грынпісу давялі да палітыкаў, якія разглядаюць варыянты далейшага нарошчваньня аб'ектаў перапрацоўкі вуглевадародаў і атамнай энэргетыкі. Актывісты правялі больш за 2000 акцыяў ад Аргентыны і Калюмбіі да ЗША, Швэцыі, Індыі, Нэпалу і Новай Зэляндыі.

Натхнёныя экалягічнымі мітынгамі, канадзкія актывісты плянуюць правесьці штосьці падобнае да акцыі "Рухай плянэту" на Парлямэнцкім узгорку ў Атаве, каб пратэставаць супраць будаўніцтва трубаправоду Keystone XL. Сотні людзей зарэгістраваліся для ўдзелу, нягледзячы на тое, што яны могуць быць арыштаваныя.

**Паведамленьне ў блогу EoinD**





# Сьмерць ляўрэата Нобэлеўскай прэміі міру, актывіста-эколяга Вангары Маатаі



Мы былі засмучаныя, даведаўшыся, што кенійская праваабаронца Вангары Маатаі прайграла ў барацьбе з ракам і памерла ва ўзросьце 71 года. Вангары зрабіла істотны ўнёсак у распаўсюджаньне дэмакратыі, правоў чалавека і правоў жанчынаў у Кеніі, і нам будзе вельмі не ставаць яе. Вангары была першай афрыканскай жанчынай, якая атрымала Нобэлеўскую прэмію міру ў 2004 годзе за сваю працу ў галіне правоў чалавека і экалёгіі. Яна таксама была заснавальнікам Руху Зялёнага пояса ў канцы 1970-х, мэтай якога было палепшыць умовы жыцьця кенійцаў, скараціць беднату і перадухіліць разбурэньне наваколнага асяродзьдзя шляхам пасадкі дрэваў.

На сёньняшні дзень дзякуючы высілкам Маатаі ў Кеніі пасаджана больш за 30 мільёнаў дрэваў, і дрэва застаецца сымбалем барацьбы за дэмакратыю ў Кеніі.

Маатаі выкарыстала экалягічную тэматыку ў якасьці адпраўнога пункту для прапаганды правоў чалавека і правоў жанчынаў. Яна была адной зь першых жанчын на ўсходняй і цэнтральнай Афрыцы, якая атрымала ступень кандыдата навук у афрыканскім унівэрсытэце, вялікая частка яе прафэсійнай кар'еры была зьвязаная з навукай, яна была дэканам вэтэрынарнага факультэту Ўнівэрсытэту Найробі. Маатаі выступала супраць аўтарытарнай палітыкі і пратэставала супраць кенійскага прэзыдэнта Даніэля Арапа Маэ ў сярэдзіне 1980-х. Рух Зялёнага пояса ў гэты час заклікаў да вызваленьня вязьняў сумленьня і пасьпяхова спыніў будаўніцтва хмарачоса ў Найробі. Маатаі сутыкалася з пагрозамі, была зьбітая, арыштаваная, ёй нават было прад'яўленае абвінавачаньне ў бунце за яе дзеяньні. Пазьней яна працавала памочніцай міністра па пытаньнях наваколнага асяродзьдзя ў кенійскім парлямэнце. Маатаі атрымала францускі ордэн Ганаровага легіёну ў 2006 годзе і была прызначаная Пасланцом міру Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў у 2009 годзе, надаючы адмысловую ўвагу экалягічным пытаньням. ■

**Паводле Фрыдам-хаўс**

# Дзясятыя ўгодкі Міжнароднага года валянтэраў (IYV+10)

Валянтэрства дае людзям магчымасьць зьмяняць сьвет. Прайшло 10 гадоў з моманту абвяшчэньня Міжнароднага года валянтэраў, і Арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў у адмысловай рэзалюцыі Генэральнай асамблеі заклікала адзначыць гэтыя ўгодкі па ўсёй плянэце.

У юбілейны год многія няўрадавыя арганізацыі па ўсім сьвеце намагаюцца прасоўваць каштоўнасьці валянтэрства, прызнаюць яго пазытыўны эфэкт, будуюць і ўмацоўваюць добраахвотніцкія сеткі. ■

**Паводле http://www.worldvolunteerweb.org/**



www.worldvolunteerweb.org

Валянтэры мэдыцынскага пэрсаналу, якія працавалі з ахвярамі землятруса ў правінцы Сычуань (Sichuan, Кітай), знайшлі паўзу для групавога фотаздымку

# Асамблея НДА: Вызваленьне палітвязьняў – першы крок да магчымага дыялёгу

**Рабочая група Асамблеі НДА абмеркавала ўмовы дыялёгу з уладамі, неабходнасьць нарошчваньня грамадзка-палітычнай вагі грамадзянскай супольнасьці Беларусі і ўдзел Беларусі ва Ўсходнім партнэрстве.**

Рабочая група Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў прыняла дзьве заявы, датычныя меркаванага дыялёгу ўладаў з грамадзтвам і нераскрытага патэнцыялу беларуска-эўрапейскіх стасункаў у межах праграмы Ўсходняга партнэрства.

Асамблея заўжды выказвалася за неабходнасьць канструктыўнага дыялёгу паміж грамадзкасьцю й дзяржавай дзеля ўмацаваньня грамадзянскай супольнасьці й развіцьця дэмакратыі ў Беларусі. Аднак такі дыялёг магчымы толькі ў свабоднай ад страху і перасьледу за грамадзкую дзейнасьць атмасфэры.

Асамблея НДА прапаноўвае "Канцэпцыю спрыяньня органамі ўлады развіцьцю грамадзянскай супольнасьці Беларусі", дзе адзначаюцца прынцыпы і працэдуры ўзаемадзеяньня. Галоўным чыньнікам для магчымасьці размоваў пра дыялёг Асамблея НДА лічыць неадкладнае вызваленьне і поўную рэабілітацыю ўсіх палітычных вязьняў. "У адваротным выпадку любую спробу дыялёгу мы лічым фіктыўнай і амаральнай", – адзначаецца ў дакумэнце.

Разам з тым, Асамблея НДА не выключае, што ўлады могуць зымітаваць крокі да дэмакратызацыі, і заклікае арганізацыі грамадзянскай супольнасьці канцэнтраваць свае вы-сілкі на працы з грамадзтвам, каб нарошчваць свой грамадзка-палітычны патэнцыял.

"Мы палічылі неабходным яшчэ раз падкрэсьліць, што дыялёг, каб быць выніковым, ня можа праходзіць у атмасфэры страху і рэпрэсіяў. Мы чакаем ад уладаў крокаў, якія сьведчылі б пра сур'ёзнасьць намераў размаўляць з грамадзтвам аб выхадзе з крызісу. Безумоўна, першым такім крокам мусіць быць вызваленьне і рэабілітацыя палітвязьняў. З свайго боку, арганізацыям грамадзянскай супольнасьці Беларусі неабходна канцэнтраваць свае намаганьні на працы з грамадзтвам, каб атрымаць мандат на прадстаўленьне ягоных інтарэсаў у стасунках з уладамі", – адзначыў старшыня Рабочай групы Асамблеі НДА Сяргей Мацкевіч. ■


http://img135.imageshack.us

# Усходняе партнэрства мусіць грунтавацца на каштоўнасьцях

www.blog.ngorbachov.com

Другое пытаньне, якое ўздымалася на паседжаньні Рабочай групы, датычыла саміту Ўсходняга партнэрства, а таксама фармату ўдзелу Беларусі ў праграме Ўсходняга партнэрства. Два гады ўдзелу Беларусі ў гэтай праграме не прывялі да пазытыўных зьменаў у кірунку дэмакратыі. Кіраўніцтва Беларусі разглядае нармалізацыю стасункаў з аб'яднанай Эўропай выключна як працэс саступак з боку Эўразьвязу ў абмен на касмэтычныя і несыстэмныя захады.

"Нацыянальная плятформа Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства ўжо рабіла крокі для таго, каб паўплываць на працэс набліжэньня Беларусі да эўрапейскіх каштоўнасьцяў і стандартаў. Складаньне прапановаў ад грамадзкіх арганізацыяў для плянаў дзеяньняў паміж ЭЗ і ўрадам нашай краіны, названых намі "дарожнымі мапамі", было і застаецца важным здабыткам, які і надалей трэба развіваць", – зазначыў кіраўнік Выканаўчага бюро Асамблеі НДА Сяргей Лісічонак.

Паводле прадстаўнікоў Асамблеі НДА, праграма Ўсходняга партнэрства яшчэ не скарыстала закладзены ў яе патэнцыял спрыяньня палітычным і сацыяльна-эканамічным рэформам – яна патрабуе рэфармаваньня.

Асамблея лічыць, што пэўны ўхіл дзеяньняў ад імя беларускай Нацыянальнай плятформы ФГС Усходняга партнэрства ў бок канкураваньня з апазыцыйнымі палітычнымі сіламі за лідэрства не адпавядае ані мэтам і задачам самой Нацыянальнай плятформы ў краіне, ані інтарэсам усёй дэмакратычнай супольнасьці Беларусі. Таму прадстаўнікі Асамблеі НДА Беларусі заклікаюць да спрыяньня эўрапейскай інтэграцыі Беларусі, эўрапеізацыі інстытутаў беларускага грамадзтва і дзяржавы, мадэрнізацыі краіны. ■





# Да 15-годзьдзя Асамблеі




Надыходзіць важная падзея для Асамблеі НДА – 15-годзьдзе нашай дзейнасьці. У сувязі з гэтым было вырашана падрыхтаваць кнігу, прымеркаваную да гэтай даты, дзе мы плянуем апавесьці пра гісторыю ўтварэньня арганізацыі, згадаць важныя моманты ў нашай дзейнасьці, ключавых асобаў ды ролю Асамблеі ў станаўленьні грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі.

Вашая роля ў дзейнасьці Асамблеі НДА бясспрэчна важная, і мы просім вас узяць удзел у падрыхтоўцы такой кнігі!

На дадзены момант мы працуем над зборам інфармацыі і рэканструкцыі храналёгіі Асамблеі НДА. Просім вас дапамагчы нам у гэтай працы. Магчыма ў вас захаваліся архіўныя дакумэнты, фота, відэа, узоры запрашэньняў на асамблееўскія кангрэсы ды іншыя дакумэнты, датычныя нашай дзейнасьці. Гэта першы этап працы. Былі б вельмі ўдзячныя, калі вы б падзяліліся з намі!

Наступны кірунак працы па падрыхтоўцы кнігі – рэканструкцыя храналёгіі дзейнасьці Асамблеі. Просім вас далучыцца і дапамагчы ўзнавіць гісторыю Асамблеі. Так, у электронным варыянце па спасылцы http://bit.ly/pgtZJY даступны файл з храналёгіяй з магчымасьцю адкрытага рэдагаваньня і дадаваньня інфармацыі непасрэдна вамі, без удзелу пасярэдніка. Калі ласка, падзяліцеся з намі тым, што было важнага ў жыцьці і дзейнасьці Асамблеі НДА!

Спадзяемся, што разам з вамі, у супольнай творчай працы, мы зможам узнавіць і перадаць іншым гісторыю Асамблеі НДА. Чакаем вашага плённага ўдзелу!

Па ўсіх тэхнічных пытаньнях можна зьвяртацца да нашага інфармацыйнага каардынатара Насты праз мэйл preskantakt@belngo.info або тэлефон 8029 6338993. Менавіта яна прыкладае ўсе намаганьні, каб такая слаўная ідэя, як кніга да 15-годзьдзя Асамблеі НДА, ажыцьцявілася. ■

# На сустрэчы АБСЭ абмеркавалі свабоду асацыяцыяў у Беларусі

29 верасьня 2011 года ў межах сустрэчы па чалавечым вымярэньні Арганізацыі па бясьпецы й супрацоўніцтве ў Эўропе адбылося паралельнае мерапрыемства "Свабода асацыяцыяў у Беларусі: як палепшыць прававыя ўмовы для дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў". Імпрэза была арганізаваная Асамблеяй дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў з удзелам менскага Цэнтру прававой трансфармацыі.

Асамблея НДА ўжо трэці год запар ладзіць прэзэнтацыі, прысьвечаныя свабодзе асацыяцыяў, на штогадовых сустрэчах АБСЭ па чалавечым вымярэньні ў Варшаве. Арганізатары адзначылі, што сёлета тэматыка стану правоў чалавека ў Беларусі дамінуе на варшаўскай сустрэчы: катаваньні, беспадстаўныя арышты, перасьлед палітычных апанэнтаў і праваабаронцаў згадваюцца падчас пленарнага паседжаньня, а таксама знаходзяцца ў фокусе ўвагі шматлікіх паралельных мерапрыемстваў. Аднак тэма ўмоваў дзейнасьці НДА ня страчвае сваёй актуальнасьці й застаецца ў ліку тых крытэраў, паводле якіх Эўразьвяз і іншыя міжнародныя суб'екты ацэньваюць прагрэс у разьвіцьці сытуацыі ў краіне.

У сваім выступе старшыня Рабочай групы Асамблеі НДА Сяргей Мацкевіч прадставіў дадзеныя па сотняхператрусаў і канфіскацыяў абсталяваньня, зь якімі грамадзкія аб'яднаньні краіны сутыкнуліся пасьля выбараў 19 сьнежня 2010.

Паводле юрыста Юрыя Чавусава, артыкул 193-1, які карае за дзейнасьць у складзе незарэгістраваных аб'яднаньняў, па-ранейшаму застаецца ў арсэнале аўтарытарнай улады ў якасьці сродку застрашваньня й перадухіленьня непажаданай грамадзкай актыўнасьці.

Дырэктар Цэнтру прававой трансфармацыі Вольга Смалянка паведаміла, што залішнія бар'еры для рэгістрацыі НДА, крымінальная адказнасьць за дзейнасьць незарэгістраваных НДА, абмежаваньні ў галіне атрыманьня ўнутранага й замежнага фінансаваньня для дзейнасьці НДА, а таксама дыскрымінацыйныя падыходы ў правадастасоўнай практыцы перашкаджаюць развіцьцю грамадзянскай супольнасьці ў краіне.

У часе дыскусіі былі абмеркаваныя магчымыя сродкі павелічэньня ўплыву міжнародных стандартаў у галіне свабоды асацыяцыяў на развіцьцё заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Была агучаная прапанова стварэньня пляну дзеяньняў па рэфармаваньні заканадаўства аб некамэрцыйных арганізацыях, які б забясьпечваў пасьлядоўную й цэласную карціну тых дзеяньняў, якія былі б сапраўдным сьведчаньнем памкненьня беларускага ўраду да паляпшэньня сытуацыі ў гэтай сфэры. ■

# Незалежныя экспэрты: Эмбарга на пастаўку лічбавых тэхналёгіяў можа стаць сыгналам салідарнасьці й мець маральнае значэньне



Праблема выкарыстаньня электронных і тэлекамунікацыйных тэхналёгіяў у краінах з аўтарытарным рэжымам з мэтай парушэньня правоў грамадзянаў мае цяпер глябальнае значэньне. Ці павінныя дэмакратычныя краіны ўвесьці поўнае эмбарга альбо неяк абмяжоўваць экспарт тэхналёгіяў і абсталяваньня, калі яны могуць быць выкарыстаныя як сродкі ўціску й парушаць правы чалавека? Да глябальнай дыскусіі па гэтым пытаньні далучыліся прадстаўнікі беларускіх НДА, палітыкі й экспэрты ў галіне мэдыяў і IT у межах круглага стала, які правяла Асамблея НДА 19 кастрычніка ў Менску.

*Ніякае эмбарга дзейнічаць на сто адсоткаў ня будзе*

Удзельнікі круглага стала прыйшлі да высновы, што наўрад ці ўвядзеньне эмбарга можа быць тэхнічна эфэктыўным. У той жа час увядзеньне пэўных абмежаваньняў у гэтай сфэры можа мець маральнае й палітычнае значэньне праз прызнаньне правоў чалавека як найважнейшай меры, па якой ацэньваецца законнасьць выкарыстаньня тых ці іншых тэхналёгіяў.

Паводле выканаўчага дырэктара Асамблеі НДА **Сяргея Лісічонка**, дагэтуль эўрапейская супольнасьць не надавала шмат увагі такім момантам, як абсталяваньне й праграмнае забясьпечаньне, якое можа скарыстоўвацца для сачэньня за грамадзкімі актывістамі ў інтэрнэце й праз тэлефанію, інтэрнэт-цэнзуры ды блякаваньня пэўных рэсурсаў у сеціве.

"Цяпер шэраг міністэрстваў замежных справаў краінаў ЭЗ пачалі вывучаць не толькі праблему парушэньня правоў чалавека ў Беларусі, але й праблему, зьвязаную з выкарыстаньнем адмысловых праграмных прадуктаў і тэхналягічнага абсталяваньня, якое выкарыстоўваецца для абмежаваньня правоў і свабодаў грамадзянаў. Эўрапейская супольнасьць дыскутуе адносна таго, ці трэба забараніць пастаўку абсталяваньня й праграмнага забясьпечаньня тым краінам, якія могуць выкарыстоўваць яго для сачэньня за палітычнымі апанэнтамі й рэпрэсіяў у дачыненьні да іх за выказваньні ў інтэрнэце. Пасьля апошніх акцыяў маўклівага пратэсту мы ведаем, што некалькі актывістаў прыцягвалася да адказнасьці за тое, што яны на сваіх старонках заклікалі да ўдзелу ў мірных акцыях", – адзначыў Сяргей Лісічонак.

На яго думку, Беларусь можа апынуцца ў ліку краін, у дачыненьні да якіх Эўразьвяз можа ўвесьці эмбарга на пастаўку высокіх тэхналёгіяў.

"Неабходна больш шырока інфармаваць грамадзтва празь СМІ пра наяўнасьць праблемы выкарыстаньня інфармацыйных тэхналёгіяў супраць грамадзкіх актывістаў у Беларусі, а таксама праводзіць асьветніцкія кампаніі па мінімальнай адукацыі кампутарнай бясьпецы й працы ў інтэрнэце як грамадзкіх актывістаў, так і простага насельніцтва", – лічыць мэдыяэкспэрт **Ірына Віданава**.

На думку адмыслоўца ў галіне IT **Аляксея Чарняева**, "ніякае эмбарга на пастаўкі высокіх тэхналёгіяў альбо праграмнага абсталяваньня для адсочваньня іншадумства ў сеціве дзейнічаць на сто адсоткаў ня будзе".

"Нават калі краіны ЭЗ увядуць такое эмбарга супраць Беларусі, тэхналёгію адсочваньня можна будзе атрымаць праз трэція рукі. Гэта ня спыніць тых, хто хоча адсочваць дэмакратычных актывістаў і іх дзейнасьць у інтэрнэце", – адзначыў Чарняеў.

Магчымым сродкам узьдзеяньня, на думку ўдзельнікаў круглага стала, можа стаць забарона на прадстаўленьне сэрвісаў тэхнічнай падтрымкі й абслугоўваньня праграмных і апаратных сыстэмаў, якія выкарыстоўваюцца рэпрэсіўнымі рэжымамі для палітычнага ўціску, а таксама забарона на продаж тэхналёгіяў й абсталяваньня, адназначна прызначаных для шпіянажу й кантролю.

Аднадушна была прызнаная неабходнасьць празрыстасьці й публічнага раскрыцьця зьместу кантрактаў на пастаўку пэўнага абсталяваньня ў краіны з рэпрэсіўнымі рэжымамі.

Удзельнікі круглага стала зьбіраюцца прыцягваць да абмеркаваньня гэтай праблемы як унутры Беларусі, так і на міжнародным узроўні. ■






http://expert.ru

# Нобэлеўская прэмія міру – Бяляцкаму!

Асамблея НДА Беларусі заклікае ўсіх, хто мае магчымасьць і жаданьне далучыцца да кампаніі па вылучэньні Алеся Бяляцкага на атрыманьне Нобэлеўскай прэміі міру, зьвяртацца да нас!

29 грамадзкіх дзеячаў з усяго сьвету стварылі Аргкамітэт «Бяляцкага на Нобэль». У яго ўвайшлі старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвіла, расейская праваабаронца Людміла Аляксеева, рэктар Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту Анатоль Міхайлаў, кіраўнікі найбуйнейшых скандынаўскіх праваабарончых арганізацый і міжнародных фондаў.

Старшыня Рабочай групы Асамблеі няўрадавых арганізацый Сяргей Мацкевіч адзначыў аднадушнасьць падтрымкі кандыдатуры Бяляцкага ў беларускім незалежным грамадстве.

Паводле правілаў прэміі, вылучэньне павінна адбыцца да канца студзеня 2012 года, а пасьля Аргкамітэт мае правесьці кампанію ў падтрымку прапановы. У прыватнасьці запланаваныя слуханьні ў нарвэскім парлямэнце. Менавіта пяць дэпутатаў стортынга ад розных фракцыяў прымаюць рашэньне наконт лаўрэата. ■

**Паводле "Нашай нівы"**

# Стоп рэпрэсіўным законам



У Савет Рэспублікі перададзены калектыўны зварот грамадзкасьці з нагоды заплянаванага разгляду зьменаў у шэраг актаў заканадаўства.

Прадметам звароту стала занепакоенасьць грамадзкасьці закона-праектамі аб унясеньні зьменаў у Крымінальны кодэкс і закон "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях", а таксама ў закон "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь" (славуты закон "аб бязьдзеяньні").

Аўтары калектыўнага звароту пратэстуюць супраць увядзеньня ў Крымінальны кодэкс новых артыкулаў, якія караюць за парушэньне парадку правядзеньня масавых мерапрыемстваў. Увядзеньне крымінальнай адказнасьці за такія дзеяньні пры наяўнасьці надзвычай жорсткага парадку атрыманьня дазволаў на правядзеньне масавых акцыяў створыць падставу для палітычных рэпрэсіяў: цяпер крымінальным злачынствам стане нават публікацыя абвестак аб правядзеньні мітынгаў і пікетаў да атрыманьня рашэньня па заяўцы на іх правядзеньне.

Патэнцыйная крыміналізацыя дабрачыннай дзейнасьці, паводле новага артыкула 369.2 Крымінальнага кодэкса "Атрыманьне замежнай бязвыплатнай дапамогі ў парушэньне заканадаўства Рэспублікі Беларусь", скрайне нэгатыўна адаб'ецца на колькасьці сродкаў, што атрымлівае Беларусь у межах міжнародных праграмаў і праектаў. Апроч таго, паўстае рызыка прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці асобаў, што атрымліваюць грашовыя пераводы з-за мяжы, якія нават не патрабуецца рэгістраваць у якасьці замежнай дапамогі.

Адзначаецца, што прапанаваныя заканадаўцамі новыя вызначэньні артыкулаў "Здрада дзяржаве" фактычна яшчэ на стадыі прыняцьця гэтых нормаў закладаюць магчымасьць іх пашыранай інтэрпрэтацыі. Уключэньне ў склад здрады дзяржаве "іншага аказаньня дапамогі замежнай дзяржаве" дазволіць кідаць за краты кожнага, хто кантактуе з замежнымі арганізацыямі, журналістамі, праваабарончымі структурамі. Такая прастора для пашыранага тлумачэньня ёсьць і ў шэрагу іншых артыкулаў, якія прапануюцца ў Кодэкс.

У калектыўным звароце ягоныя падпісанты заклікаюць чальцоў Савета Рэспублікі адхіліць гэтыя законапраекты.

З аналітычнай запіскай можна азнаёміцца на сайце Цэнтру прававой трансфармацыі: (http://lawtrend.org) ■




# Няўрадавыя арганізацыі зьвярнуліся ў Канстытуцыйны Суд па справе спрэчных зьменаў у заканадаўстве

24 кастрычніка ў Канстытуцыйны Суд перададзены калектыўны зварот ад імя дваццаці шасьці беларускіх няўрадавых арганізацыяў. Прадметам звароту стала занепакоенасьць грамадзкасьці тымі зьменамі, якія былі ўнесеныя ў Крымінальны кодэкс і закон “Аб грамадзкіх аб’яднаньнях”, а таксама ў закон “Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь” (славуты закон “аб бязьдзеяньні”).

Заяўнікі заклікаюць Канстытуцыйны Суд на этапе папярэдняга канстытуцыйнага кантролю, які ажыцьцяўляецца гэтым органам пасьля прыняцьця законаў Палатай прадстаўнікоў і іх зацвярджэньня Саветам Рэспублікі, перад падачай іх на падпісаньне прэзыдэнту скарыстацца сваімі паўнамоцтвамі і не дапусціць значнага парушэньня канстытуцыйных правоў і свабодаў грамадзянаў у сувязі з новымі заканадаўчымі актамі.

У прыватнасьці, ў калектыўным звароце прыводзяцца канкрэтныя выпадкі супярэчаньня нормаў новых законаў нормам Арганізацыі па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе, а таксама нормам Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах у частцы свабоды сходаў і свабоды асацыяцыяў. На падставе падрабязнага аналізу права ў калектыўным звароце робіцца выснова аб неабходнасьці прызнаць не адпавядаючымі Канстытуцыі Закон “Аб унясеньні зьмяненьняў і дапаўненьняў у Закон Рэспублікі Беларусь “Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь” і Закон “Аб унясеньні дапаўненьняў і зьмяненьняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь”.

Аўтары звароту выказваюць надзею, што, ацаніўшы канстытуцыйнасьць дадзеных законаў, суд накіруе вектар разьвіцьця канстытуцыйнага правасудзьдзя ў Рэспубліцы Беларусь на папярэджаньне парушэньняў канстытуцыйнасьці ў нарматворчасьці, выключэньне магчымых нэгатыўных сацыяльных вынікаў дзеяньня норм законаў, якія супярэчаць Канстытуцыі, недапушчэньне скажэньня канстытуцыйна-прававога сэнсу ў праваўжывальнай практыцы.

Сярод арганізацыяў, якія далучыліся да звароту ў Канстытуцыйны суд - Рэспубліканскае праваабарончае грамадзкае аб’яднаньне “Беларускі Хельсінкскі Камітэт”, Цэнтар прававой трансфармацыі, Праваабаронча-асьветніцкае грамадзкае аб’яднаньне “Рух “За свабоду”, Магілёўскі праваабарончы цэнтар, Рэспубліканскае грамадзкае аб’яднаньне “Мір для ўсіх”, Грамадзкае аб’яднаньне “Экадом”, а таксама іншыя няўрадавыя арганізацыі.

Канстытуцыйны Суд робіць заключэньне аб канстытуцыйнасьці законаў у парадку абавязковага папярэдняга кантролю у пяцідзённы тэрмін з дня паступленьня закона ў Канстытуцыйны Суд. Судовая вытворчасьць па гэтай катэгорыі справаў вядзецца ў пісьмовай форме, а выніковае рашэньне афармляецца ў выглядзе асобнага дакумэнта. Пасля гэтага ў заканатворчым працэсе пачынаецца стадыя падпісаньня закона кіраўніком дзяржавы, пасля чаго закон можа быць афіцыйна апублікаваны і ўступіць у сілу. ■

## ГРАМАДЗКІЯ ДЗЕЯЧЫ ПЕРАСЬЦЕРАГАЮЦЬ...

Ад пераўтварэньня нацыянальнай плятформы ФГС Уходняга партнэрства ў ашчэ адзін палітычны суб’ект.

Лідэры беларускіх грамадзкіх аб’яднаньняў зьвярнуліся да арганізацыяў-удзельніц Нацыянальнай плятформы ФГС УП. У заяве яны просяць падтрымаць тыя каштоўнасьці і мэтыя, якія былі пакладзеныя ў “Мэмарандум аб супрацоўніцтве”, дзеля пазьбяганьня магчымай палітызацыі Нацыянальнай плятформы. У адмысловай заяве грамадзкія лідэры выказалі сваю падтрымку ідэі Нацыянальнай плятформы як пляцоўкі для камунікацыі і дыялёгу паміж арганізацыямі грамадзянскай супольнасьці, зацікаўленых у эўрапейскім вэктары разьвіцьця Беларусі.

Сярод падпісантаў заявы – прадстаўнікі Асамблеі НДА, “Беларускай асацыяцыі журналістаў”, Беларускага інстытута стратэгічных дасьледаваньняў BISS, “Беларускага Хэльсынскага камітэта”, Праваабарончага цэнтру “Вясна” і іншых. ■





# Актыўнасьць сышла ў зімовую сьпячку

**Магістар філязофскіх навук ды грамадзкая актывістка Юнэля Сальнікава – пра сэзонныя хваляваньні беларусаў. А таксама пра тое, чаму жыхары РБ бачаць болей сэнсу ў вырошчваньні бульбы, чым у вулічных акцыях пратэсту.**




Размаўляла Юлія Сівец

**– Улетку мы назіралі ўзрастаньне актыўнасьці беларусаў. Грамадзкая атмасфэра была напоўненая пратэстам. Чаму стаўся магчымым такі ўсплёск?**

– Летнія падзеі паказалі, што ў Беларусі пратэставыя настроі ёсьць ня толькі ў апазыцыйным асяродку. Гэты ўсплёск стаўся магчымым, на маю думку, таму, што ад пачатку не было вялікага ціску на ўдзельнікаў флэшмобаў. І таму звычайныя грамадзяне, адчуўшы, што яны могуць практычна бесьперашкодна выходзіць і публічна артыкуляваць сваю пазыцыю, пачалі з пэўнай рэгулярнасьцю ўдзельнічаць у гэтых акцыях. Менавіта дзякуючы рэгулярнасьці і таму факту, што спачатку ня білі, не хапалі ў адкрытую, мы праз нейкі час пачалі назіраць усплёск грамадзкай актыўнасьці. Я б сказала мы ўбачылі нават масавасьць пратэставых мерапрыемстваў у Беларусі.

Але разам з тым трэба адзначыць, што на гэтую самую актыўнасьць вельмі ўплываў любы больш-менш неспрыяльны фактар. Той жа дождж. Статыстыка маўклівых акцыяў паказвае: калі былі неспрыяльныя ўмовы надвор’я, людзей выходзіла менш.

А калі ўжо пачалі хапаць і саджаць на суткі, то актыўнасьць увогуле пайшла на спад. І гэта зразумела. Тут немагчыма вінаваціць людзей, што яны не хацелі быць зьбітымі альбо звольненымі з працы праз тое, што іх затрымалі на акцыях пратэсту.

Я згодная з большасьцю палітолягаў, якія аналізуюць сёньняшнюю сытуацыю ў Беларусі: пратэставыя настроі ў грамадстве назіраюцца, але нашыя грамадзяне не гатовыя рызыкаваць сваім дабрабытам і якасьцю жыцьця, каб публічна выказваць сваю незадаволенасьць.

Бо беларусы – людзі прагматычныя (як, у прынцыпе, і ўсе астатняе чалавецтва).

**– Але ці можна тлумачыць усплёск грамадзкай актыўнасьці, якую мы назіралі ўлетку, толькі тым фактам, што ўдзельнікаў спачатку не хапалі і ня білі? Можа, падзеі 19 сьнежня 2010 таксама справакавалі акцыі пратэсту, такі своеасаблівы эфэкт даміно?**

– Ня думаю, што летнія акцыі наўпрост былі зьвязаныя з Плошчай у сьнежні 2010.

Зразумела, што людзі, якія выходзілі ўлетку на акцыі, ведалі пра Плошчу. Бо флэшмобэры былі невыпадковыя, абазнаныя, чыталі інтэрнэт, у многіх зь іх знаёмыя хадзілі на плошчу. Таму ўдзельнікі летніх акцыяў ведалі, чым скончыліся для некаторых падзеі 19 сьнежня. Ведалі, што тэлефонныя званкі падчас Плошчы адсочваліся, і многіх пасьля выклікалі на допыты ў міліцыю ці КДБ.

Але мне ўсё ж такі падаецца, што большасьць удзельнікаў РЧСС ды “Стоп-бэнзыну” не былі спадкаемцамі сьнежаньскіх пратэстоўцаў. Я не заўважаю наўпроставай сувязі паміж летнімі пратэстамі і Плошчай.

Матывацыя для ўдзелу ў акцыях “Стоп-бэнзыну” была ў тым, што надакучыла трываць тую эканамічную сытуацыю (якая, у прынцыпе, цяпер пагаршаецца). І ў нейкі момант, думаецца, беларусам проста падалося, што яны жывуць у вольнай краіне і могуць вольна выказваць свой пратэст.

**– То бок атрымліваецца, што менавіта фактар зьбіцьця пратэстоўцаў і імавернага звальненьня з працы за ўдзел у флэшмобах абумовіў восеньскае зьніжэньне актыўнасьці? Хоць падавалася, што будзе наадварот: калі восеньню крызіс будзе паглы-**



**За лета нашыя грамадзяне нарасьцілі бульбы, нарабілі розных хатніх нарыхтовак, закатак**

**бляцца, а цэны расьці, грамадзяне больш актыўна пачнуць выходзіць на вуліцы.**

– Так, цяперашняе зьніжэньне актыўнасьці я зьвязваю з тым, што ўлетку быў вялікі прэсінг з боку ўладаў на тых, хто прыходзіў на РЧСС і "Стоп-бэнзын". Прычым неадэкватна жорсткі прэсінг, які назіраецца і цяпер (напрыклад, у Гомелі на тых 10 чалавек, якія працягнулі і ўвосень ладзіць серадовыя акцыі пратэсту, сьцягваюць каля 100 сілавікоў).

На зьніжэньне актыўнасьці паўплывалі аб'ектыўныя прычыны: надышла восень, скончыліся вакацыі, у людзей пачаліся будзённыя справы, а эканамічны крызіс яшчэ болей паглыбіў страх згубіць працу. І хоць у тых жа бюджэтнікаў малыя заробкі, але, прынамсі, пакуль хлеб ёсьць. За лета нашыя грамадзяне нарасьцілі бульбы, нарабілі розных хатніх нарыхтовак, закатак. І яны разумеюць: пакуль ім ёсьць што страчваць. Вось калі беларусы зьядуць свае прыпасы, калі ня будзе чым карміць дзяцей, магчыма, гэта і будзе пунктам адліку, ад якога пачнуцца актыўныя пратэсты.

Дасьледаваньні А. Вардамацкага і А. Манаева паказваюць, што пратэставыя настроі растуць, але, як і 5, і 10 гадоў таму, беларусы не гатовыя масава выходзіць і публічна іх агучваць. Бо дно яшчэ не дасягнутае.

А дзе гэтае дно, не бяруся прагназаваць. Можа, калі ежа скончыцца ці калі курс даляра будзе 25 тысячаў...

**– А ці можна казаць пра расчараванасьць грамадзянаў у любой актыўнасьці? Маўляў, пратэсты нічога не дадуць.**

– Мяркую, так. Ёсьць гэтая расчараванасьць. Прычым у мяне такое ўражаньне, што гэтая расчараванасьць час ад часу забываецца, і людзі зноў пачынаюць пратэставаць.

То бок яна ў нас, у Беларусі, па сьпіралі ідзе. Улетку мы назіралі расчараванасьць. Цяпер трэба зноўку пачакаць, каб людзі забыліся і пачалі выходзіць на вуліцы.

Бо ў Беларусі пратэсты насамрэч нічога не даюць. Тое, што пасьля адной з акцыяў "Стоп-бэнзын" цэны былі адкручаныя назад, – выключэньне.

І я, па шчырасьці, дагэтуль ня веру, што гэтае адкручваньне было наўпрост зьвязанае з пратэстам на вуліцы. Хутчэй за ўсё, было супадзеньне. Бо ў нашай краіне правілы аднолькавыя і нязьменныя ўжо 17 гадоў.

Ніводны пратэст не прыводзіў да пазытыўных сацыяльных зьменаў. Гэтыя пратэсты па-ранейшаму дзейнічаюць як своеасаблівая школа гартаваньня апазіцыі, як магчымы прыток новых людзей.

Але да дыялёгу з уладамі ці да адэкватных крокаў з боку ўладаў акцыі не прыводзяць. І гэты факт людзей расчароўвае. Бо, паўтаруся, беларусы – прагматыкі.

Ім хочацца з кожнага свайго кроку нешта мець. Пасадзілі бульбу – вырасьцілі бульбу, выйшлі на вуліцу пратэставаць – курс даляра ўсталяваўся. А калі гэтага не адбываецца, людзі будуць укладаць сваю энэргію, свае намаганьні ў тое, ад чаго можа быць эфэкт.

**– Падчас акцыяў РЧСС, "Стоп-бэнзын" многія з захапленьнем казалі пра абуджэньне нізавой актыўнасьці. Маўляў, нарэшце звычайныя грамадзяне, недатычныя да НДА ці партыяў, пачалі пратэставаць, самаарганізоўвацца, выходзіць на плошчу. І разам з тым, усё больш стала чуваць галасоў скептыкаў пра тое, што ніякай самаарганізацыі няма. Што акцыі рыхтаваліся яшчэ тры гады таму. Некаторыя нават заяўлялі пра "цээрушныя" распрацоўкі. Ці былі згаданыя ініцыятывы насамрэч самаарганізацыяй? Альбо гэта міт?**

– Я дапускаю існаваньне розных вэрсіяў. Але хачу спаслацца на ўласны досьвед і на ўласныя адчуваньні, якія былі ўлетку. Так, мае знаёмыя і сябры, далёкія ад палітыкі, якія ня ведаюць ніводнага прозьвішча апазыцыянэраў, акрамя Пазьняка і ~~Лябедзькі~~, чулі пра гэтыя акцыі. Яны падтрымлівалі гэтыя акцыі. Хтосьці зь іх казаў пра тое, што будзе выходзіць на гэтыя акцыі. І некаторыя насамрэч выходзілі. Наўрад ці можна казаць, што спрацавалі нейкія "цээрушныя" распрацоўкі.

Асноўнае пытаньне, на якое варта было б знайсьці адказ альтэрнатыўным (апазыцыйным) сілам, – гэта сацыяльна-маральна-псыхалягічныя раздражняльнікі, што выводзяць беларусаў са стану раўнавагі і прымушаюць выяўляць сваю актыўнасьць, грамадзянскую сьвядомасьць. І такія раздражняльнікі сёлета некалькі разоў спрацоўвалі.

Раздражняльнік, калі ўзьнікла раптоўная салідарнасьць у студзені – і беларусы пачалі выплачваць штрафы ды насіць перадачы для ўдзельнікаў Плошчы. Хваля была нечаканая. Салідарнасьць пасьля выбуху ў красавіку ў менскім мэтро: тады пачалі зьбіраць грошы, прыносіць кветкі і ставіць зьнічы. І гэтыя дзеяньні людзі рабілі сапраўды – скажу патасна – па загадзе свайго сэрца і душы. Тут спрацавалі не тэхналёгіі, а гэтыя раздражняльнікі. Калі яны правільна знойдзеныя ў беларусаў, калі закранутыя, нашыя грамадзяне сапраўды пачынаюць самаарганізоўвацца і нешта рабіць.

Памятаю, калі мае сябры тэлефанавалі і пыталі, каму можна перадаць грошы для сядзельцаў за Плошчу. Хоць самі гэтыя сябры на Плошчу не пайшлі. Але ў імкненьні перадаць грошы на іх ніхто не ўплываў.

Іх закранула, магчыма, такое радыкальнае і нахабнае парушэньне прынцыпаў справядлівасьці. Магчыма, трагізм нейкі. Што да летніх акцыяў, мабыць, таксама спрацаваў падобны раздражняльнік.

**– А ці магла летняя актыўнасьць грамадзянаў быць выкліканая звычайным трэндам? Пратэст – гэта модна. І пайшлі пляскаць. А калі запахла небясьпекай, то проста пранесьлі сваю актыўнасьць у больш бясьпечнае месца – інтэрнэт.**

– Не, ня думаю, што гэта было выклікана трэндам. Покуль сярод беларусаў ня модна пратэставаць.

**– Ваш прагноз: ці варта чакаць узрастаньня пратэставых настрояў і выхаду гэтых настрояў на вуліцы? Ці грамадзтва толькі засяродзіцца на спажываньні крытычнай інфармацыі?**

– Павялічвацца пратэставыя настроі будуць, але яны ня будуць выяўляцца праз адкрыты выхад на вуліцы. Расчараваньне мусіць забыцца.

І нягледзячы на тое, што дабрабыт беларусаў значна пагоршыўся і эканамічныя праблемы будуць паглыбляцца, гэта ня выведзе пратэстоўцаў на вуліцы. Хаця, думаю, нават калі беларусы застануцца на адной бульбе, то тады ня будзе публічнага выказваньня незадаволенасьці.

Але ўлада чакае пратэстаў. І мы бачым гэта сярод іншага па зьменах у заканадаўстве, якія прымаюцца за адзін дзень у кожнай палаце...

**– А калі мы прасочым пікі расчараванасьці і пікі актыўнасьці за апошнія гады, праз колькі месяцаў варта чакаць выхаду на вуліцы?**

– У палітоляга Андрэя Ягорава ёсьць дасьледаваньне, у якім ён прасачыў фэномэн вулічнай актыўнасьці Беларусі за пэрыяд 1996-2007 гадоў.

На падставе аналізу шматлікіх дадзеных Ягораў даводзіць, што палітычная актыўнасьць у Беларусі мае сэзонны характар: павялічваецца ўвесну (пік у сакавікукрасавіку), у меншай ступені назіраецца ўвосень (кастрычнік-лістапад) і спадае ўлетку і ўзімку.

Прычым, пад паняткам "сэзонны" маюцца на ўвазе не прыродныя фактары, а сацыяльна-палітычны каляндар: выбары, падзеі ўнутры краіны ці ў суседзяў, сьвяты, памятныя даты і г.д.

Сёлетнія пратэсты, кульмінацыя якіх прыпала на зіму і лета, відавочна, парушаюць "сэзонную" лёгіку.

Гэта можа сьведчыць, у тым ліку, пра тое, што стабільнасьць палітычнай сыстэмы Беларусі пахіснулася. А ў такіх варунках прагнозы не зьяўляюцца ўдзячнай справай, бо ўсё можа зьмяніцца ў любы час. ■



**Павялічвацца пратэставыя настроі будуць**

# Ад Стоп-Бэнзыну да Стоп-рэжыму?

**“СТОП-ПАЛІВА”, “РЧСС”, акцыі салідарнасьці… Мінулае лета выдалася надзвычай багатым на пратэсты. Беларускае грамадзтва, нягледзячы на рэпрэсіі, прадэманстравала калясальны патэнцыял супраціву. Тое, што маўклівыя акцыі супыніліся, гэта ня значыць, што людзі раптам перасталі крытычна ставіцца да ўладаў і прагнуць пераменаў. Проста ў хуткім часе пратэсты могуць набыць іншую форму, больш адэкватную бягучай сацыяльна-палітычнай атмасфэры. Аглядальнік Дар’я Ліс у сваім эсэ “Ад СТОП-БЭНЗЫНУ да СТОП-РЭЖЫМУ” разважае пра прыроду маўклівага супраціву беларусаў.**

**Дар'я Ліс**

**Восеньскі вечар. Акцыя салідарнасьці і штурм аўтазаправак**

Вечар пятніцы — цудоўны час! Робіш сабе кубак гарачай духмянай гарбаты — і рыхтуесься бескарысна, але зь вялікім задавальненьнем прабавіць гадзінку-другую ў сацыяльных сетках. Тым больш што варта адказаць на пару сяброўскіх лістоў. Не, не атрымліваецца! 21 кастрычніка, вечарам пятніцы, сайт vkontakte.ru не працаваў. І некаторыя салідныя рэсурсы беларускай мэдыясфэры — таксама. Ні табе сур’ёзную аналітыку пачытаць, ні зь сябрамі несур’ёзна пабалбатаць. “Страчаны” вечар!

Што ж насамрэч здарылася? Здарылася чарговая акцыя салідарнасьці з палітычнымі зьняволенымі. Мне сорамна як журналісту і грамадзяніну — я забылася! Шпацыруючы вуліцамі далёкага эўрапейскага гораду (спачатку рэальна, а потым віртуальна), гартаючы падарожныя здымкі з адпачынку і адказваючы на пытаньне сяброў “А як яно там?!”, я амаль выпала зь беларускіх рэалій другой паловы кастрычніка. І ня толькі кастрычніка: апошнія месяцы былі спробай збудаваць свой незалежны сьвет… Спробай своеасаблівай эміграцыі? Цалкам магчыма, прынамсі, рэпэтыцыяй такой “эміграцыі” — дакладна.

Чарговая акцыя салідарнасьці з палітычнымі зьняволенымі 21 кастрычніка. Дзіўна ня тое, што не працавалі некаторыя сайты: можна было ўвогуле адключыць інтэрнэт ва ўсёй Беларусі — ужо ня трэба, ужо не прынцыпова. Дзіўна ня тое, што народу прыйшло зусім мала: мог зусім ніхто не прыйсьці — цёмна і халодна ў кастрычніку на Кастрычніцкай. І ўсё ж было некалькі чалавек, што сьвядома прыйшлі. І некалькі дзясяткаў чалавек, што іх здымалі ці “пакавалі”. І ўсе яны прыйшлі не каб змагацца… Хутчэй кожнага клікаў на плошчу абавязак. Абавязак падтрымаць. Абавязак здымаць. Абавязак хапаць. І ўсё ўжо па інэрцыі, таму што ўсе стаміліся змагацца са status quo ці падтрымліваць яго.

І ў той самы вечар пятніцы па ўсёй Беларусі народ масава штурмаваў… Ня Дом ураду, не! Гэта наогул “было даўно і няпраўда”. Народ масава штурмаваў аўтазапраўкі. Усё проста: пайшлі чуткі, што цэны на паліва падымуцца на 40-45%. Беларусы прывыклі верыць дрэнным чуткам. Дрэнныя чуткі апраўдваюцца, калі ня сёньня, то заўтра, думае зазвычай беларус… І зазвычай не памыляецца! Распаўсюджаньне чутак і панікі перадугледжвае крымінальную адказнасьць, а тое, што ты паддаесься паніцы, не! Пакуль не. Таму можна спакойна набываць бэнзын ды цукар. На апошнія грошы.

**Экскурс у лета 2011. Хронікі краіны хронікаў**

Летнія ўспаміны ратуюць нас восеньню і зімой. Прамінулае беларускае лета было актыўным і “неабыякавым”, што ня можа не ратаваць сумленьне неабыякавых беларусаў. Зазвычай пік грамадзянска-палітычнай актыўнасьці ў РБ прападае на перад- і пасьлявыбарны час.

Мінулае лета стала выключэньнем. Пратэсты былі жорстка і рашуча разагнаныя пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 19 сьнежня 2010, а народ не супакоіўся. Фінансавы крызіс, дэвальвацыя, дэфіцыт, імклівы рост цэнаў на тавары ды паслугі — усё гэты вывела людзей на плошчу не ў фармаце «клясычнага» мітынгу, а ў фармаце грамадзянскай, нефармальнай акцыі пратэсту.

«Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі» адбыліся дзякуючы каардынацыі дзеяньняў праз сацыяльныя сеткі vkontakte.ru і facebook.com, па прыкладзе арабскай вясны. Ці то айчынныя спэцслужбы паслабілі летам татальны кантроль кантэнту, ці то яны не чакалі такой вялікай колькасьці людзей, што цалкам рэальна, не віртуальна зьбяруцца на вуліцах Менска, але… Першая акцыя адбылася ў сераду 8 чэрвеня, каля 19.00 — і была нечаканай, шматлікай і нефармальнай. У гэты ж дзень народ сабраўся на цэнтральных плошчах Магілёва, Гомеля і Берасьця.

Кастрычніцкая плошча ў сталіцы раптам пачала нагадваць плошчу эўрапейскага гораду: людзі, якія сьпяваюць песьні пад гітару, усьміхаюцца, шмат размаўляюць… Празь дзесяць хвілінаў пасьля пачатку народ запляскаў у ладкі. Нешта новае! Гэта ж не забаронена законам — пляскаць у ладкі ды ўсьміхацца? Не! Апладысмэнты зрабіліся асноўнай «фішкай»








1: Акцыя РЧСС 22 чэрвеня, Менск

2: Акцыя “Стоп-паліва”

3: Падпалкоўнік Васільеў просіць разысьціся ўдзельнікаў РЧСС у Гомелі

4: Налепкі “Стоп-паліва” на аўто

5: Акцыя РЧСС у рэгіёнах

6: Маўклівыя акцыі жорстка разганяліся невядомымі ў цывільным
















аўтар: суполка РЧСС

летніх акцый пратэсту. І асноўным раздражняльнікам для спэцслужбаў. Гэта ж не забаронена законам — пляскаць у ладкі ды ўсьміхацца? Не! Значыць, трэба забараніць, схапіць, арыштаваць — такая лёгіка.

Напярэдадні ў Менску адбылася маштабная акцыя «Стоп-Бэнзын» — пратэст супраць чаргowага падвышэньня цэнаў на паліва. Аргкамітэт руху «За аўто» распаўсюдзіў плян акцыі «Стоп-бэнзын» 7 чэрвеня (http://za-avto.by/index/stop_benzin/0-9 ) і прапанаваў усім незадаволеным у 19.20 разам выехаць на праспэкт Незалежнасьці, каб празь дзесяць хвілінаў запоўніць яго. Як можна было пазнаць «сваіх»? Па прывязаных да антэнаў белых стужачках, налепках, уключанай аварыйцы ды зьніжанай хуткасьці. Каб прыцягнуць увагу да акцыі, некаторыя кіроўцы спыняліся на розных палосах руху, адкрывалі капот і праводзілі імправізаваны «рамонт» свайго аўто. Пры гэтым удзельнікі акцыі зь міліцыяй паводзілі сябе карэктна, не займалі крайняй правай паласы і не перашкаджалі працаваць грамадзкаму транспарту.

І ўсё роўна былі затрыманьні, суды і штрафы. Грошы на іх выплату дапамаглі сабраць неабыякавыя людзі літаральна за адзін дзень, а 9 чэрвеня, праз два дні пасьля акцыі «Стоп-Бэнзын», цэны на паліва былі зьніжаныя. З пункту гледжаньня эканомікі нелягічна, але гэта паказала страх уладаў перад шматлюднымі грамадзкімі пратэстамі і зрабіла далейшыя акцыі пратэсту шматлікімі і сьмелымі.

**Серада і апладысмэнты. Дапамога затрыманым**

Маўчаньне і воплескі ў серады зрабіліся традыцыяй беларускага лета. Калі Менск стамляўся, падтрымлівалі рэгіёны. Берасьце, Гародня, Гомель, Віцебск, Магілёў актыўна ўдзельнічалі ў акцыях 22 і 29 чэрвеня. Выходзім. Маўчым. Пляскаем у ладкі... Такі сцэнар быў усім добра зразумелы, а посьпех мінулых акцый натхняў людзей зноўку прыходзіць на плошчу свайго гораду.

Амаль адразу масавыя акцыі пратэсту «справакавалі» масавыя затрыманьні. Толькі з 15 чэрвеня па 6 ліпеня было затрымана 1800 чалавек. У выніку ўзьнікла неабходнасьць салідарнасьці і дапамогі затрыманым, што мы ўжо «праходзілі» ў сьнежні мінулага года.

Летам 2011 аднаўляе працу грамадзкая кампанія «Анёлахоўнік» (http://by-angels.org), актывізоўваюцца многія беларускія блогеры і проста неабыякавыя людзі. Зьбіраюцца рэчы, пакуюцца перадачы... І колькі наша краіна будзе жыць ва ўмовах забароны несанкцыянаваных апладысмэнтаў і пэрманэнтнага падвышэньня цэнаў на бэнзын (і ня толькі бэнзын!), сказаць цяжка.

Зрэшты, няма нічога новага пад сонцам! Тое, што адбываецца з намі цяпер, ужо калісьці было. У іншым фармаце. У канцы верасьня была прэзэнтаваная кніга літаратара і журналіста Сяргея Рублеўскага «Маўчаньне на ўвесь Божы сьвет», дзе расказваецца пра савецкі перапіс насельніцтва 1937 года, вынікаў якога ўлады не прызналі. Супрацоўнікі ўпраўленьня, што праводзіла перапіс, былі рэпрэсаваныя постфактум. Цікавая рэч: падчас перапісу 230 чалавек з 52 сямей Стайскага і Пышнянскага сельсаветаў Лепельскага раёну адмовіліся адказваць на пытаньні. Яны проста маўчалі ў прысутнасьці перапісчыкаў. Маўчаньне — яшчэ адна праява беларускага мэнталітэту? ■

**Дар'я Ліс**

### Рух будучыні РЧСС і "Мы ня дойныя каровы"

"Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку" і "Стоп-паліва" улетку ўскалыхнулі ўсю Беларусь. Старт масавым ініцыятывам, можна сказаць, дала красавіцкая акцыя супраць падвышэньня коштаў на паліва. Пасьля яе распачаліся серадовыя акцыі пратэсту.

На першую РЧСС прыйшло ўсяго па некалькі дзясяткаў чалавек у Менску і абласных цэнтрах. Аднак ужо на другую акцыю, якая адбылася 8 чэрвеня, на галоўныя плошчы гарадаў сабраліся сотні чалавек. Улады пачалі нэрвавацца. Плясканьне ў далоні сталі ўяўляць небясьпеку для рэжыму. "Рэвалюцыя Праз Сацыяльную Сетку – гэта нацыянальная кампанія, канчатковай мэтай якой зьяўляецца адстаўка грамадзяніна Лукашэнкі з наступным судом", – гаворыцца на старнцы ініцыятывы ў сацыяльнай сетцы Укантакце.

"Мы ня дойныя каровы. Вярніце нашае права быць людзьмі", -- такі лёзунг акцыі "Стоп-паліва" . Старонка ў сеціве: http://za-avto.by/index/stop_benzin/0-9, а таксама да суполкі можна далучыцца Ўкантакце. Паводле прыхільнікаў акцыяў пратэсту супраць падвышэньня коштаў на паліва, паколькі ўрад набывае нафту па ільготных коштах, то для грамадзянаў таксама мусіць быць прадастаўленае права набываць паліва па ільготных коштах. "Чаму шэраговы беларускі аўтамабіліст вымушаны датаваць беларускія заводы, якія ня здольныя забясьпечыць прыбытковасьць сваёй працы", -- задаюцца пытаньнем удзельнікі суполкі "Стоп-бензін". Так як большая палова коштаў кожнага літра – гэта акцыі дзяржавы, якія зьяўляюцца прамым прыбыткам гэтай самай дзяржавы, то прыхільнікі "Стоп-паліва" заяўляюць: "Хопіць красьці з нашых кішэняў".





# "Аўтамабільны бунт" загубіла "памяркоўнасьць"

***Рэзанансныя акцыі грамадзянскага непадпарадкаваньня "СТОП-БЭНЗЫН", скіраваныя супраць падвышэньня коштаў на паліва, запачаткавалі сэрыю яшчэ больш гучных пратэстаў пад умоўнай назвай "маўклівыя рэвалюцыі".***

***Часопіс "Асамблея" пацікавіўся ў каардынатара ініцыятывы "СТОП-БЭНЗЫН" па Гомелі і Магілёве Аляксея Сьцяпанава адносна таго, чаму назіраецца спад актыўнасьці на дадзеным этапе? А яшчэ наш рэспандэнт даў адказ на пытаньне, ці былі ўсё ж такі арганізатары "аўтамабільнага бунту".***



"Пакуль чалавеку ёсьць што губляць, ён ня дойдзе да крайнасьці"

Аляксей Сьцяпанаў:

-- Мяркую, што паніжэньне пратэстных настрояў зьвязанае з тым, што падчас чацьвёртай кампаніі "СТОП-БЭНЗЫН" пачаліся арышты актыўных удзельнікаў. Нягледзячы на тое, што колькасьць арыштаваных была вельмі нязначнай і іх штрафы былі кампэнсаваныя пад патранажам "За аўто", многія так і не рашыліся перакрочыць рысу страху. Пакуль чалавеку ёсьць што губляць, ён ніколі ня дойдзе да крайнасьці. Пэўна, у Беларусі ўсё ж такі многім ёсьць што губляць. Акрамя таго, яшчэ адной прычынай грамадзкай апатыі беларусаў я б назваў нашую славутую "памяркоўнасьць", якую нам прышчаплялі стагодзьдзямі. Але не павінна быць так, каб народ цярпеў відавочныя зьдзекі. Мы – народ з багатай гісторыяй, выдатнымі традыцыямі і звычаямі, якія перадаюцца ад пакаленьня да пакаленьня. Таму тое, што мы паводзім сябе надзвычай пакорліва, як гэтага патрабуе цяперашняя сытуацыя, выклікае ў мяне пачуцьцё сораму. Аднак зазначу, што "СТОП-БЭНЗЫН" – па-за палітыкай. Асноўная задача руху – быць пачутымі і заручыцца падтрымкай усяго насельніцтва, весьці выключна мірны дыялёг з уладамі і дамагацца ўзважаных рашэньняў, якія будуць надзвычай выгодныя усім бакам.

Што да пытаньня пра ініцыятараў "СТОП-БЭНЗЫНУ", то я скажу, што гэта агульная ініцыятыва, якая ня цягне за сабою ніякіх асабістых выгодаў. Аднойчы сабраліся разам некалькі чалавек, якія задумаліся, чаму ніхто не прадстаўляе інтарэсы аўтамабілістаў у краіне. І ўвогуле абмеркоўвалася шмат праблемаў, зьвязаных з аўтамабілізмам. Чаму ніхто не задумваецца, адкуль зьяўляюцца цэньнікі на запраўках? Чаму няма незалежных экспэртных камісіяў па ДТЗ. Чаму інспэктар ДАІ – бог і цар на дарозе, ад якога не дачакаесься паважлівага стаўленьня да іншых удзельнікаў руху? Насамрэч праблемаў шмат, але рэальнай падтрымкі з боку дзяржавы ў аўтамабілістаў няма. Таму ідэю рэалізацыі агульнай справы падтрымалі многія валянтэры. Колькасьць актыўных удзельнікаў расло, як сьнежны ком. З павелічэньнем колькасьці ўдзельнікаў нас заўважылі СМІ, у асноўным незалежныя. Натуральна, дзяржаўныя СМІ пра нашую праблему маўчалі. І яшчэ, "СТОП-БЭНЗЫН" ня мае аніякага зьнешняга фінансаваньня. Заўжды ўсё рабілася і робіцца выключна за свае грошы. ■

тэма

# Свабоду Алесю Бяляцкаму!



## Рубікон Бяляцкага

“Гаворым “Бяляцкі” – маем на ўвазе праваабарончы рух Беларусі”. Няма вялікага сумневу, што такой лёгікі прытрымліваюцца ўлады. Расправу над кіраўніком Праваабарончага цэнтру “Вясна” цяжка зьмясьціць у рамкі клясычнага зьвядзеньня рахункаў уладароў з іншадумцам. Безумоўна, пэрсанальнае непрыманьне Бяляцкага як адвечнага дысыдэнта ў сяго-таго зь беларускіх вярхоў ёсьць. Прычым ужо другое дзесяцігодзьдзе. Аднак варункі і хада “спэцапэрацыі “Бяляцкі”, да якой былі прыцягнутыя найлепшыя кадры КДБ, МУС, ДФР, Падатковай інспэкцыі, МЗС і шматлікая агентура рэжыму ў суседніх краінах ЭЗ, сьведчыць пра тое, што ўлада нарэшце дасьпела да неабходнасьці абсалютнай зачысткі праваабарончай супольнасьці. Спачатку ўзяліся за Бяляцкага і ягоную “Вясну”, пасьля дойдзе чарга да іншых.

Рэжыму не патрэбныя праваабаронцы ў любой канцэнт-рацыі і ў любым выглядзе, нават сэрвільным. Абламаўшы зубы ў спробе стварэньня кіраванай грамадзянскай супольнасьці (у адным з папярэдніх нумароў часопіса “Асамблея” мы падрабязна пісалі пра фіяска ініцыятывы сп. Юрыя Загумёнава ў справе легітымізацыі вэртыкальнай мадэлі стасункаў улады з грамадзянскай супольнасьцю), кіраўніцтва краіны зразумела, што адзінае выйсьце для захаваньня цяперашняга статус-кво – поўная нэйтралізацыя гаваркіх абаронцаў правоў чалавека. Таму працэс Алеся Бяляцкага – гэта ўсяго толькі ластаўка далейшых рэпрэсій. Для невідушчых ёсьць іншы аргумэнт на карысьць такой радыкальнай тэзы: далейшая крымiналізацыя праваабарончай дзейнасці, перадугледжаная дапаўненьнямі і праўкамі ў так званым “антырэвалюцыйным пакеце”. На Бяляцкім адкатваюць новы мэханізм задушэньня грамадзянскага актывізму.

Праваабаронцы замінаюць рэжыму выкараскацца зь міжнароднай ізаляцыі, а таксама істотна псуюць імідж у вачох цікаўных грамадзянаў унутры краіны. Ужо гэтага было б дастаткова, каб узьняць меч над галавой аднаго з найбольш пазнавальных прадстаўнікоў праваабарончага цэху. Дэталізуючы дадзенае сьцьверджаньне, згадаем, як цкавала прапаганда Алеся Бяляцкага і Алену Танкачову пасьля іхных выступаў на паседжаньні Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы, што адбылася ў красавіку 2011. Тады дзяржаўныя СМІ пачалі “скокі на костках”, разаграваючы нэгатыўныя эмоцыі ад жахлівага тэракту ў сталічным мэтро. Маўляў, як могуць нейкія там Бяляцкі і Танкачова выказваць свае меркаваньні пра правы чалавека ў Страсбургу, калі ў нас такое гора. Можна меркаваць, што менавіта прынцыповая пазыцыя праваабаронцаў у постывыбарчыя месяцы сталася апошняй кропляй, што перапоўніла кубак цярпеньня ўладаў.

Іншая прычына, якая выклікала агрэсіўныя паводзіны сілавікоў у дачыненьні да “Вясны”, – актыўнасьць праваабаронцаў падчас выбараў (назіраньне за працэсам галасаваньня) і непасрэдна аказаньне матэрыяльнай дапамогі пацярпелым. Сакрэтам полішынэля зьяўляецца тое, што “Вясна” кампэнсавала мноства штрафаў апазыцыянэраў, аплачвала адвакацкія паслугі і судовыя выдаткі. І гэтага не магла ня ведаць улада, якая хацела адным ударам спыніць хвалю салідарнасьці з рэпрэсаванымі, у падмурку якой была “Вясна” зь яе валянтэрамі і юрыстамі.

Працэс Бяляцкага – гэта той пункт адліку, пасьля якога ўжо няма вяртаньня ў палон лібэралізацыйных ілюзіяў. Тыя, хто дагэтуль спадзяецца на добрага цара, будуць у хуткім часе расчараваныя. У Беларусь вяртаецца берыеўшчына. Праўда, пакуль што ў “лайт-варыянце”.

**Мікола Бянько**



## АТАКА ЎЛАДАЎ НА ПРАВААБАРОНЧЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ – ВЫКЛІК ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ

*Заява Праўленьня Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі*

Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі з трывогай адзначае актывізацыю наступу на праваабарончую супольнасьць краіны з боку дзяржаўнай улады. Арышт і крымінальны перасьлед лідэра Праваабарончага цэнтру “Вясна” Алеся Бяляцкага зьяўляецца дэманстратыўнай акцыяй, якая скіраваная на застрашваньне і зьнішчэньне беларускага праваабарончага руху.

Праваабарончыя няўрадавыя арганізацыі – адзін з найбольш дзейсных і эфэктыўных кампанэнтаў беларускай грамадзянскай супольнасьці, якая ганарыцца іх прафэсіяналізмам і сьмеласьцю.

Праца беларускіх праваабаронцаў заўжды сутыкалася з супрацьдзеяньнем з боку дзяржаўных уладаў Беларусі, якія не прызнаюць унівэрсальнай каштоўнасьці правоў чалавека і грэбуюць сусьветнымі гуманітарнымі стандартамі.

Асаблівую трывогу і абурэньне выклікае ўзбуджэньне крымінальнай справы і затрыманьне лідэра беларускага праваабарончага руху, заснавальніка і кіраўніка Праваабарончага цэнтру “Вясна” Алеся Бяляцкага, які аднačасова зьяўляецца віцэ-прэзыдэнтам Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека. Гэтыя дзеяньні ўладаў супярэчаць духу Усеагульнай дэклярацыі правоў чалавека, міжнародна-прававых абавязацельстваў і Канстытуцыі Беларусі, яны зьяўляюцца недапушчальнымі і ганебнымі для ўсёй краіны.

Праўленьне Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі

- патрабуе ад дзяржавы вызваленьня Алеся Бяляцкага і спыненьня распачатай супраць яго крымінальнай справы,
- заклікае ўсе структуры грамадзянскай супольнасьці Беларусі да салідарнасьці і падтрымкі праваабарончых арганізацыяў і праваабаронцаў, што сутыкаюцца цяпер зь перасьледам,
- заклікае міжнародную супольнасьць і міждзяржаўныя арганізацыі ўжыць усе магчымыя палітычныя і прававыя захады для прыпыненьня атакі на праваабаронцаў у Беларусі.

### Біяграфія Алеся Бяляцкага

**(паводле http://spring96.org)**

Алесь Бяляцкі быў адным са стваральнікаў таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», таварыства «Мартыралёг Беларусі», быў сябрам Арганізацыйнага камітэту Беларускага народнага фронту «Адраджэньне», сакратаром Управы (1996–1999), намесьнікам старшыні (1999-2001) БНФ "Адраджэньне", заяўнікам адной зь першых масавых акцый “Дзяды”.

У 1989 годзе быў абраны дырэктарам Літаратурнага музэя Максіма Багдановіча.

У 1991–1995 гадах Бяляцкі быў дэпутатам Менскага гарадзкога савету.

У 2000--2004 – старшыня Рабочай групы Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі.

З 1996 – старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна». У 2007 годзе Алесь Бяляцкі быў абраны віцэ-прэзыдэнтам FIDH (“Міжнародная фэдэрацыя правоў чалавека”). Муніцыпалітэт гораду Генуя (Італія) у 2010 годзе надаў Алесю Бяляцкаму званьне ганаровага грамадзяніна Генуі.



**Валянцін Стэфановіч, Праваабарончы цэнтар “Вясна”:**

-- Роля, якую адыгрывае Бяляцкі ў разьвіцьці грамадзянскай супольнасьці, досыць вялікая.

Ён кіраўнік адной з найбольш актыўных праваабарончых арганізацыяў краіны, якая паўстала ў 1996 годзе, праз год пасьля зьяўленьня БХК у 1995 годзе, стаўшы фактычна другой створанай праваабарончай арганізацыяй у найноўшай гісторыі краіны. Акрамя таго, Бяляцкі доўгі час быў старшынём Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў, адным з ініцыятараў правядзеньня кангрэсаў беларускіх праваабарончых арганізацыяў. Голас “Вясны”, Алеся Бяляцкага на міжнароднай арэне быў і застаецца вельмі важным.

Алеся Бяляцкага караюць жорстка таму, што ўладам праваабарончыя арганізацыі не патрэбныя ў прынцыпе. Рэжым імкнецца зьнішчыць арганізацыі, што аказваюць канкрэтную матэрыяльную дапамогу пацярпелым ад рэпрэсій. Менавіта таму і ўносяцца цяпер зьмены ў Крымінальны кодэкс, паводле якіх за атрыманьне замежнай дапамогі можа пагражаць турэмны тэрмін. Улады хочуць канчаткова змаргіналізаваць праваабарончы рух краіны, каб ён ня мог нічога рабіць, нікому дапамагаць і ні на што ўплываць. Таму ў якасьці паказальнай ахвяры быў абраны Алесь Бяляцкі.

# Хроніка здачы Алеся Бяляцкага




**4 жніўня** Алесь Бяляцкі быў затрыманы супрацоўнікамі Дэпартамэнту фінансавых расьследаваньняў Камітэту дзяржкантролю. Праваабаронца абвінавацілі ва "ўхіленьні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры" (артыкул 243, ч.2 Крымінальнага Кодэкса Беларусі, пралугледжвае пазбаўленьне волі на тэрмін да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасьці). Паводле ўзбуджанай крымінальнай справы, прайшліператрусы ў офісе праваабарончага цэнтру "Вясна", а таксама на кватэры і лецішчы Алеся Бяляцкага.

**5 жніўня** сталася вядома, што інфармацыю аб банкаўскіх рахунках старшыні ПЦ "Вясна" перадала Міністэрства юстыцыі Літвы. Як заявіў падчас прэс-канфэрэнцыі ў Вільні прадстаўнікі праваабарончага цэнтру, раздрукоўкі банкаўскіх рахункаў банкаў SEB і NORD літоўскі бок прадаставіў яшчэ ў сакавіку 2011 года. Інфармацыя была прадастаўленыя ў межах Пагадненьня аб аказаньні прававой дапамогі па грамадзянскіх сямейных і крымінальных справах паміж Беларусяй і Літоўскай Рэспублікай. Акрамя Алеся Бяляцкага літоўскае міністэрства перадало пра рахункі 400 грамадзянаў Беларусі.

Намесьнік старшыні праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч нагадаў падчас прэс-канферэнцыі ў Беларускім Доме правоў чалавека ў Вільні: "Сродкі, якія пералічваліся на рахункі ў Літве, накіроўваліся не на прыватныя патрэбы асобаў, на якіх тыя рахункі былі афармленыя, а на праваабарончую дзейнасьць, у прыватнасьці - на падтрымку палітычных зьняволеных у Беларусі".

Дзеяньні літоўскага мінюста рэзка раскрытыкавала частка кіруючай большасьці. Апазыцыя сейма заклікала міністра юстыцыі Шымашуса падаць у адстаўку.

Міністар юстыцыі Рэмігіюс Шымашус у інтэрвію рэдактарцы сайта charter97.org Натальлі Радзінай распавёў падрабязнасьці банкаўскага скандалу. "2 лютага 2011 года Мінюст атрымаў запыт зь Мінюста Беларусі аб прадастаўленьні гэтай інфармацыі. Мы, чыноўнікі Міністэрства юстыцыі, разглядалі гэта як руціннае пытаньне. На жаль, нават тыя людзі, якія знакамітыя ў Беларусі, іхнія імёны ня заўжды вядомыя нават высокаадукаваным людзям у Літве. Намі быў зроблены запыт у банкі. Пасьля таго, як інфармацыя была атрыманая ад банкаў, яны была перададзеная Мінюсту Беларусі. І толькі праз некалькі месяцаў, у канцы чэрвеня, мы атрымалі ад Міністэрства замежных справаў Літвы інфармацыю пра тое, што гэта можа быць выкарыстана ў палітычных мэтах. У той жа дзень, 21 чэрвеня, было вырашана спыніць прадстаўляць фінансавую інфармацыю Беларусі", – заявіў Рэмігіюс Шымашус сайту charter97.org.

Амбасадар Літвы ў Беларусі Эдмінас Багдонас ад сваёй краіны выбачыўся перад жонкай Алеся Бяляцкага Натальляй Пінчук за непаразуменьне, якое прывяло да арышту ейнага мужа.

**11 жніўня** – новы скандал. Зьявілася інфармацыя, што генпракуратура Польшчы таксама перадала Міністэрству юстыцыі ў Менску інфармацыю пра банкаўскія рахункі Алеся Бяляцкага. Як заявіў прэс-прадстаўнік Міністэрства замежных справаў Польшчы Марцін Басацкі, пасьля падзеяў 19 сьнежня МЗС Польшчы праводзіў адмысловую кансультацыю з усімі органамі польскай дзяржавы, падчас якой перасьцерагаў пра падобныя спробы з боку беларускага рэжыму. Прадстаўнік Генпракуратуры Мацей Куяўскі апраўдваўся тым, што ў беларускім запыце не было зьвестак пра тое, што Бяляцкі займаецца апазыцыйнай дзейнасьцю. Акрамя таго, сталася вядома, што беластоцкая пракуратура выдала рахункі яшчэ 15 беларускіх грамадзянаў.

**18 жніўня** з-за арышту Бяляцкага звольнілася кіраўніца Дэпартаменту міжнароднага права Міністэрства юстыцыі Літвы Аўшры Бярнаціене. А Генпракуратура Польшчы часткова прыпыніла дзеяньне пагадненьня аб прававой дапамозе зь Беларусяй. ■





# Мантэкі і Капулецці "трэцяга сэктару", альбо Спрэчка тупаканечнікаў паміж сабою?



**Што хаваецца за разыходжаньнямі паміж Асамблеяй НДА і беларускімі інстытутамі Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства?**

**Юрый Чавусаў**

Прыняцьце на верасьнёўскім паседжаньні Рабочай групай Асамблеі НДА заявы "Ўсходняе партнэрства павіннае грунтавацца на каштоўнасьцях" не атрымала значнага розгаласу ў мэдыях. Тым ня менш, гэты дакумэнт падкрэсьліў некаторыя разыходжаньні ў пазыцыях двух аб'яднаньняў дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі (Асамблеі НДА і кансорцыюму "Эўрабеларусь"), якія пасьля знайшлі сваё разьвіцьцё ў працэсах структураваньня нацыянальнай платформы Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства.

У дадзенай заяве прадстаўнікі кіроўнага органу Асамблеі адзначылі, што Ўсходняе партнэрства як праграма ўцягваньня Беларусі ў эўрапейскую геапалітычную арбіту і інструмэнт разьвіцьця дэмакратыі ў навакольлях Эўразьвязу сваёй функцыі ня выканала. Адначасова было канстатавана, што, нягледзячы на паразу ў асноватворнай для сябе функцыі, беларуская частка Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства спрабуе граць актыўную ролю на беларускай палітычнай сцэне, якая не адпавядае сапраўднаму значэньню нацыянальнай плятформы. Фактычна напярэдадні Варшаўскага саміту Ўсходняга партнэрства на адрас усёй праграмы Эўразьвязу быў кінуты папрок у неэфэктыўнасьці, а на адрас беларускіх апэратараў гэтай праграмы – папрок у тым, што яны займаюцца не сваёй справай і "бяруць не па чыне".

Застаецца не зусім зразумелым, што мелі на ўвазе аўтары заявы пад "маргіналізацыяй каштоўнаснага складніку праграмы Ўсходняга партнэрства". Але ўнутрыбеларускі мэсыдж гучыць дастаткова ясна: "ухіл дзеяньняў ад імя беларускай нацыянальнай плятформы Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства ў бок канкураваньня з апазыцыйнымі палітычнымі сіламі за лідэрства не адпавядае ані мэтам і задачам самой нацыянальнай плятформы ў краіне, ані інтарэсам усёй дэмакратычнай супольнасьці Беларусі".

Такое сур'ёзнае абвінавачаньне супала па часе з жывымі дыскусіямі пра зьмест і ролю той часткі грамадзянскай супольнасьці, якая ўдзельнічае ў працэсах Усходняга партнэрства. У гэтай дыскусіі актыўны ўдзел з боку крытыкаў нацыянальнай плятформы бралі як прадстаўнікі Асамблеі (кіраўнік выканаўчага бюро Сяргей Лісічонак, намесьнік старшыні Рабочай групы Алег Гулак), так і прадстаўнікі ня зьвязаных з Асамблеяй структураў (кіраўніца брусэльскага Офісу за дэмакратычную Беларусь Вольга Стужынская, старэйшы аналітык Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў Дзяніс Мельянцоў). Пасьля кастрычніцкай канфэрэнцыі Нацыянальнай плятофрмы пра скепсісе ў дачыненьні да існай стратэгіі разьвіцьця грамадзянскага ўдзелу ва Ўсходнім партнэрстве ў адмысловай адозве заявілі найбольш аўтарытэтныя структуры розных галінаў айчыннага "трэцяга сектару": БХК, Вясна, БАЖ, БІСС, Офіс за дэмакратычную Беларусь.

Спрэчка ў асноўным вядзецца

вакол таго, чым мусіць займацца нацыянальная платформа, апроч прадукаваньня заяваў з тых альбо іншых нагодаў.

Папулярнасьцю карыстаецца тэза, якая адпавядае пазыцыі Рабочай групы Асамблеі: аб неабходнасьці абмежаваньня ролі нацыянальнай платформы камунікацыямі з нагоды канкрэтнай эўразьвязаўскай праграмы.

Ёй супрацьстаіць пазыцыя, якую адстойваюць прыхільнікі кансорцыюму “Эўрабеларусь” (зарэгістраванае ў замежжы міжнароднае аб’яднаньне НДА, што з 2008 года ставіць за мэту спрыяньне эўрапеізацыі нашай краіны). Згодна з гэтай пазыцыяй, беларускі афіцыйны бок сапраўды не скарыстаўся магчымасьцямі Ўсходняга партнэрства, што не дазваляе эфэктыўна выконваць функцыі грамадзянскай супольнасьці ў межах праграмы. Але паводле прыхільнікаў “Эўрабеларусі”, якія ў значнай ступені і паўплывалі на стварэньне Форуму грамадзянскай супольнасьці ў межах праграмы, нават пры такіх умовах нацыянальная платформа можа стаць пляцоўкай для кансалідацыі айчыннай грамадзянскай супольнасьці і нават усіх дэмакратычных сілаў краіны: маўляў, сёньня гэты суб’ект прызнаецца эўрапейскімі структурамі легітымнай пляцоўкай для ўзгадненьня і каардынацыі дзеяньняў, а таксама для прадстаўніцтва на эўрапейскім узроўні. У сілу ўключэньня Беларусі ў ініцыятыву Усходняе партнэрства на дзяржаўным узроўні ён робіцца фактычна легітымным і для беларускага рэжыму.

### Якія чыньнікі штурхаюць да разыходжаньняў?

У спрэчках (часам) нараджаецца ісьціна, таму гэтая дыскусія таксама важная і карысная. Хаця прырода прадмету, аб якім вядзецца, а таксама танальнасьць дыскусіі, наўрад ці зробіць яе здабытак вельмі важкім. Справа ў тым, што падчас спрэчкі, на маю думку, надзіва важкую ролю граюць крыніцы памылак, якія падобныя да ідалаў Ф. Бэкана. Прынамсі, у пазыцыі Асамблеі, мяркую, прагладаюцца досыць яскрава здані пячоры, плошчы ды тэатру. Ці, калі прасьцей, прычыны праблемаў – у “генах” і “навакольным асяродзьдзі”.

Прычыны суб’ектыўнага кшталту, выкліканыя барацьбой за статус



**Кіраўнік Рабочай групы Асамблеі НДА Сяргей Мацкевіч**

легітымнага голасу грамадзянскай супольнасьці ўнутры краіны і за мяжой, звычайна робяцца прадметам абмеркаваньня ў асяродзьдзі функцыянэраў грамадзянскай супольнасьці. Таму я адкідаю такую прычыну спрэчак, як банальная рэўнасьць прадстаўнікоў структураў, якія змагаюцца за статус і ўплыў у сэктары. Гэты фактар ёсьць – але ён ёсьць сьледзтвам больш грунтоўных чыньнікаў.

Самым простым было б пазначыць супярэчаньні, выкліканыя “камунальна-інтрыжным фактарам” ды барацьбой за рэсурсы ў нетрах трэцяга сэктару.

Аднак мне падаецца, што значную ролю ў разыходжаньні пазыцыяў Асамблеі і лідэра Нацыянальнай платформы, групы “Эўрабеларусь”, грае паходжаньне гэтых структураў. Адрозьнівалася і навакольнае асяродзьдзе, у якім існавалі структуры Асамблеі і структуры, што зьяўляюцца стваральным ядром Нацыянальнай платформы.

Асамблея за амаль пятнаццаць гадоў свайго існаваньня абрасла патрон-кліенцкімі сувязямі, уплывамі-падпарадкаваньнямі, традыцыямі і канонамі. У тым ліку гістарычна склалася так, што Асамблея для палітычных партыяў была заўжды “харошай грамадзянскай супольнасьцю”, якая ня лезе на дзялянку палітыкаў. Гэта не перашкаджала менавіта Асамблеі ініцыяваць значныя па беларускіх мерках палітычныя кампаніі (ад “Незалежнага назіраньня” да “За свабоду”), якія, аднак, заўжды былі інтэграваныя ў звышпраекты беларускай апазыцыі і не канкуравалі зь яе плянамі. Больш за тое, традыцыйна ад моманту стварэньня Асамблея была блізкая да нацыянальна-дэмакратычных памкненьняў Партыі БНФ, што абумоўлівала становішча аб’яднаньня ў агульнапалітычных раскладах.

Але ж цяпер такое стаўленьне да месца арганізацыі не адпавядае рэчаіснасьці. Палітычныя партыі мала адрозьніваюцца ад НДА ў беларускай грамадзянскай супольнасьці, бо месца ў сыстэмнай палітыцы для іх няма. Так што партыі функцыянальна і арганізацыйна будуюцца як НДА, працуюць як НДА, актывізуюцца падчас выбараў як “палітычныя сілы”, але актывізацыя гэтая падобная да нейкіх фантомных боляў (выбараў жа няма). Партыі ў параўнаньні зь іншымі НДА маюць свой асаблівы рэсурс ідэалягічнай матывацыі сваіх сябраў для працы, але сам працэс пабудовы працы і пастаноўкі мэтаў хутчэй падобны да таго, што адбываецца ў недзяржаўным сэктары.

У гэтым сэнсе абвінавачаньні,





агучаныя ў заяве Рабочай групы, ёсьць яскравай праявай тых самых фантомных боляў.

Нацыянальная платформа ў гэтым кантэксьце грунтуецца на іншай плыні НДА, якая гістарычна імкнулася канкураваць з палітычнымі партыямі. І, адпаведна, яе ўдзельнікі маюць свой камплект фантомных боляў, зьвязаных са скепсісам да партыйнай дзейнасьці і імкненьнем “навучыць партыйцаў, як трэба рабіць”. Генэалягічна беларуская ўдзельнікі “Эўрабеларусі” вядзе свой род з групы лідэраў, якія няўдала спрабавалі разгарнуць уласны палітычны сцэнар ў 2004--2005 гадах напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў. Зь іншага пункту гледжаньня, “Эўрабеларусь” (а значыць, і нацыянальная платформа) сапраўды займае нішу партыяў – але там, дзе партыяў не павінна быць. Скажам, у кулюарах Брусэлю партыі выступаюць у ролі дэлегатаў дэмакратычнай супольнасьці проста праз тое, што ў беларускіх умовах яны займаюць нішы НДА.

### Пытаньне стратэгіі

Пасьля паразы дэмакратычных сілаў на прэзыдэнцкіх выбарах 2010 года (якую некаторыя аглядальнікі, у тым ліку зь дзеячаў Асамблеі, лічаць сваёй перамогай у справе недапушчэньня “легітымізацыі” аўтарытарнага рэжыму) перад дэмакратычнымі сіламі паўстала пытаньне далейшай стратэгіі.

Усяго ў гісторыі беларускай дэмакратычнай апазыцыі было дзьве завершаныя стратэгіі, якія могуць прэтэндаваць на такі статус (альбо, калі заўгодна, можам называць іх парадыгмамі альбо звышпадыходамі да дзейнасьці). Іх можна назваць стратэгіямі нават у сілу таго, што для іх вызначэньня дастаткова простых тэрмінаў.

Першая стратэгія паўстала, калі рэжым будаваў свае дзяржаўныя інстытуты. Яна была скіраваная на недапушчэньне легітымізацыі рэжыму (стратэгія апазыцыі з моманту фармаваньня канстытуцыйнага ладу дыктатуры і разгону парлямэнту ў 1996-м годзе), у тым ліку праз байкот і апэляцыю да замежных суб’ектаў прызнаньня сфармаваных дыктатурай інстытутаў.

Другая стратэгія – захоп улады ў выніку апэрацыі “Майдан-Плошча” (ад рэфэрэндуму па зьняцьці канстытуцыйных абмежаваньняў на колькасьць прэзыдэнцкіх кадэнцыяў, што шчасьліва супаў па



**Старшыня Міжнароднага кансорцыюма “ЭўраБеларусь” Улад Вялічка.**

часе з “аранжавай рэвалюцыяй” ва Ўкраіне ў 2004 годзе).

19 сьнежня 2010 года паклала канец стратэгіі “Плошчы”, і новай пакуль не сфармавана. Часам бачныя спробы рэанімацыі стратэгіі дэлегітымізацыі (КХП і прыхільнікі Байкоту). Нехта распачаў дыялёг з рэжымам (Ляўковіч і інш.). Хтосьці па-ранейшаму жыве ў парадыгме “ўсё вырашыць будучая Плошча”. На гэтым фоне стратэгія Нацыянальнай платформы глядзіцца цікава і можа быць годным прэтэндэнтам на тое, каб зрабіцца сапраўды агульнай стратэгіяй. Стратэгія “мы адзін народ” стратэгіяй у поўным сэнсе не зьяўляецца, аднак мае патэнцыял для таго, каб атрымаць гэты статус.

Аматарам узносіць стратэгію, якая ўвесну 2011 года атрымала паблісіці пад правакацыйнай назвай “Стратэгія-2012: Ад дыялёгу ўнутры дэмакратычных сілаў да дыялёгу з рэжымам” я прапаную прыгадаць досьвед мінулай спробы той самай групы згуляць стратэгічна на беларускім палітычным полі (маю на ўвазе спробу 2005 года). Посьпех у канструяваньні Форуму грамадзянскай супольнасьці на свой капыл тут нельга лічыць добрым прыкладам.

Зь іншага боку, стаўленьне да дыялёгу і ягоных мэханізмаў, а таксама стаўленьне да санкцыяў супраць Беларусі (альбо супраць кіроўнага аўтарытарнага рэжыму) сапраўды можа вызначаць падзелы ў “трэцім сэктары”. Але падзелы гэтыя не структурныя, рухомыя і, па вялікім рахунку, не прынцыповыя. Гэтыя падзелы ня трэба падкрэсьліваць. Наадварот, трэба ўсяляк імкнуцца нівэляваць іх праз перамовы і ўключэньне як мага большай колькасьці дзейсных суб’ектаў у кансэнсусныя праграмы.

Якія задачы стаяць перад Асамблеяй

Але для большасьці грамадзянскай супольнасьці гэтая барацьба ідэяў ня вельмі цікавая. Гэта бачна нават па колькасьці суб’ектаў, што да яе далучаюцца, а таксама па колькасьці ўдзельнікаў апошніх канфэрэнцыяў Нацыянальнай платформы (колькасьць гэтая, дарэчы, з кожным разам памяншаецца). Беларуская грамадзянская супольнасьць вельмі разнастайная – і ў ёй могуць існаваць розныя плыні і групы.

Напрыклад, красамоўны досьвед таго рашучага адпору, які атрымала Нацыянальная платформа ў спробе інтэграваць у сваю дзейнасьць праваабарончы складнік. На маю думку, вельмі слушная і карысная для краіны ідэя заснаваньня інстытуту “грамадзка-



**недапушчальна стымуляваць барацьбу клянаў “Мантэкі і Капулеці” з групаў у грамадзянскай супольнасьці**

га амбудсмэна” была сустрэтая праваабарончай супольнасьцю ў штыхі менавіта праз сумневы ў шчырасьці памкненьняў Нацыянальнай плятформы (адны ў ёй па-ранейшаму бачаць “змову Шчадравіцкага”, а іншыя – змову супраць дэмакратычнай апазыцыі, інсьпіраваную Адміністрацыяй прэзыдэнта). У любым выпадку праваабаронцы кансалідавана вырашылі не ахвяраваць айчынным праваабарончым рухам, паставіўшы карпаратыўныя інтарэсы вышэй за ідэю маналітнага кулака шырокай грамадзянска-палітычнай альтэрнатывы рэжыму.

Вырашэньне пытаньня інстытуцыялізацыі Нацыянальнай плятформы будзе, безумоўна, азначаць падзеньне ўсёахопнасьці і масавасьці гэтай інстытуцыі ў сваіх вачах. Але зь іншага боку, стварэньне інстытутаў прыняцьця рашэньняў і іх выкананьня будзе крокам да адказнай працы і выхадам да рэальнай, а ня ўяўнай легітымнасьці. Хутчэй за ўсё, у такім выпадку сукупны ўплыў гэтай інстытуцыі ўзрасьце, і яна здолее замацавацца на беларускім палітычным полі ў якасьці сталага суб’екту.

Але інстытуцыялізацыя не павінная быць нагодай да разьяднаньня. Асамблея можа быць часткай Нацыянальнай плятформы, і Нацыянальная плятформа можа быць часткай Асамблеі, а таксама магчымае суіснаваньне гэтых двух аб’яднаньняў ва ўмовах канкурэнцыі і супрацы.

У сытуацыі двух розных падыходаў, здольных быць стратэгіямі ўсіх дэмакратычных сілаў, было б памылкай ставіцца да гэтай барацьбы як да спаборніцтва футбольных камандаў, з раўнівым стаўленьнем да прыхільнікаў суперніка. Тым больш недапушчальна стымуляваць барацьбу клянаў “Мантэкі і Капулеці” з групаў у грамадзянскай супольнасьці, якія фармуюцца па розных суб’ектыўных і аб’ектыўных чыньніках. А вось аналіз гэтых чыньнікаў, крытыка падыходаў, асабліва прадметная, перамовы – гэта тое, што карысна, тое, што дазволіць узаемна ўзмацніць усіх нас. Менавіта гэтым варта займацца часоваму каардынацыйнаму камітэту, які быў створаны для выкананьня функцыяў пабудовы сталых інстытутаў нацыянальнай плятформы.

Пытаньне ня столькі ў лепшай стратэгіі для трэцяга сэктару, колькі ў лепшай працы: канкрэтнай, вымяральнай, якая скіраваная на зразумелыя мэты, заключаецца ў канкрэтных задачах і прыносіць відавочную карысьць для трэцяга сэктару, няхай сабе і ў доўгатэрміновым вымярэньні. І гаворка зусім не пра замыканьне Асамблеі ў вузкай клетцы сэрвіснай арганізацыі, а пра тое, каб арганізацыі – сябры Асамблеі ведалі, што яны атрымліваюць у выніку сяброўства ў Асамблеі.

У прынцыпе, нешта ў гэтым напрамку робіцца пастаянна. Але часам вельмі і вельмі марудна, з адхіленьнем у бок міжусобных войнаў наконт вызначэньня, зь якога боку правільна разьбіваць яйкі (“каштоўнасны і амаральны падыход”).

Трэба кіравацца статутнымі мэтамі Асамблеі і выконваць стратэгічны плян Асамблеі, распрацаваны і зацьверджаны ў 2004 годзе. Паколькі палітычны рэжым сутнасна з таго часу не зьмяніўся, нягледзячы на ўсе рэпрэсіўныя папраўкі ў заканадаўства.

Асамблея павінная займацца тым, чым умее, чым яна здольная займацца і чым яна павінная займацца з пункту гледжаньня сваіх сябраў. Сэрвісная дапамога рознага кшталту і камунікацыя, экспэртная дапамога – важныя. Тэмы для грамадзкіх кампаніяў ёсьць, і беларускае жыцьцё іх падкідвае пастаянна. Аўтарытэт Асамблеі як інстытуту прадстаўленьня супольных інтарэсаў бясспрэчны, але карыстаемся мы гэтым рэсурсам надзвычай слаба, бессыстэмна і часьцей за ўсё пры пасярэдніцтве іншых структураў.

Калі будзем узмацняць сваю працу ў пазначаным кірунку, то і голас Асамблеі будзе легітымным голасам грамадзянскай супольнасьці, і сябры Асамблеі будуць адчуваць карысьць ад наяўнасьці такой карпаратыўнай структуры. А Нацыянальная плятформа будзе легітымнай і дзейнай дэлегацыяй грамадзянскай супольнасьці на Форуме грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства, калі, безумоўна, гэтая праграма захавае сваю актуальнасьць. ■





# Беларусь – ЭЗ:

## застацца пры сваім



**Палітоляг і экс-дэпутат мясцовых саветаў Зьміцер Кухлей пра грамадзянскую супольнасьць як найбольш актыўных удзельнікаў Усходняга партнэрства. А таксама, што хацелі б атрымаць і не атрымаць беларускія ўлады ад гэтай ініцыятывы.**

Падчас апошняга саміту кіраўнікоў краінаў – партнэраў па Ўсходнім партнэрстве (далей – УсП), які адбыўся ў верасьні 2011 года, афіцыйны Менск зрабіў дэмарш, адклікаўшы сваю дэлегацыю з гэтага мерапрыемства. Пакрыўдзіўшыся на эўрапейцаў за незапрашэньне Беларусі на саміт на найвышэйшым узроўні, беларускае кіраўніцтва мэтаскіравана пайшло на абвастрэньне сытуацыі ў спробе высьветліць мяжу цярпеньня і прынцыповасьць арганізатараў саміту. З увагі на тое, што арганізатарамі сёлетняга саміту зьяўляюцца палякі, якія старшынююць у другім паўгодзьдзі 2011 года ў ЭЗ і зь якімі афіцыйны Менск пасьля брутальных прэзыдэнцкіх выбараў 2010 мае складаныя адносіны, беларускае кіраўніцтва загадзя ведала магчымую рэакцыю Польшчы на спробу кінуць выклік арганізатарам, зьнізіўшы ўзровень свайго прадстаўніцтва. Аднак нягледзячы на адмову ад удзелу ў саміце, у афіцыйнага Менску яшчэ застаецца шэраг іншых інструмэнтаў супрацоўніцтва з эўрапейскімі партнэрамі ў межах УсП, якія яны будуць працягваць выкарыстоўваць з мэтай лябіяваньня сваіх інтарэсаў на Захадзе. У сваю чаргу грамадзянская супольнасьць Беларусі зьяўляецца адной з найбольш актыўных удзельнікаў ініцыятывы ЎсП. Форум грамадзянскай супольнасьці, што адбудзецца ў лістападзе 2011, застаецца адным з галоўных інструмэнтаў, якія беларуская грамадзянская супольнасьць пляное выкарыстоўваць як для свайго асабістага разьвіцьця, так і для ціску па прасоўваньні ў Беларусі задачаў, што ставяцца на парадак дня самой ініцыятывай УсП.

Беларускае кіраўніцтва не скарысталася з магчымасьці даць старт дыялёгу з ЭЗ на палітычным узроўні. Пачатак дыялёгу мог быць закладзены на саміце кіраўнікоў дзяржаваў Усходняга партнэрства і ЭЗ, што адбыўся ў канцы верасьня 2011. Паводле афіцыйнай фармулёўкі, адсутнасьць беларускага прадстаўніцтва на саміце сталася рэакцыяй на беспрэцэдэнтныя дыскрымінацыйныя меры ў дачыненьні да Беларусі. Незадаволенасьць беларускага боку была выкліканая незапрашэньнем арганізатарамі саміту кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі, які ўнесены ў санкцыйны ліст ЭЗ пасьля падзеяў 19 сьнежня 2010. У адказ на дзеяньні арганізатараў саміту афіцыйны Менск сьвядома пайшоў на абвастрэньне сытуацыі, накіраваўшы на мерапрыемства амбасадара Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктара Гайсёнка замест міністра замежных справаў Сяргея Мартынава, які застаецца адзіным з найвышэйшага кіраўніцтва ўязным на тэрыторыю ЭЗ. У выніку беларуская дэлегацыя наагул адмовілася ад удзелу ў саміце, што, аднак, не паўплывала як на ход мерапрыемства, так і на прынятыя што да сытуацыі ў Беларусі заявы ўдзельнікаў саміту: краіны – чальцы ЭЗ традыцыйна выказалі занепакоенасьць сыту ацыяй з правамі чалавека ў Беларусі, прапанаваўшы ў абмен на дэмакратызацыю палітычнай сыстэмы фінансавую і тэхнічную дапамогу ў памеры 9 млрд даляраў, а былыя постсавецкія дзяржавы – партнэры па ЎсП падтрымалі беларускае кіраўніцтва, адмовіўшыся ставіць свае подпісы пад пунктам канчатковай рэзалюцыі, дзе гучала крытыка




**Афіцыйны Менск сьвядома пайшоў на абвастрэньне сытуацыі, накіраваўшы на мерапрыемства амбасадара Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктара Гайсёнка замест міністра замежных справаў Сяргея Мартынава**

беларускіх уладаў.

Выглядае на тое, што такімі дзеяньнямі афіцыйны Менск спрабаваў высьветліць, наколькі прынцыповую пазыцыю заняў ЭЗ у дачыненьні да афіцыйнага Менску. Пры гэтым беларускае кіраўніцтва не зацікаўленае ў поўным згортваньні дачыненьняў з Захадам, што і было пацьверджана вызваленьнем на наступны дзень пасьля саміту аднаго з палітзьняволеных, а таксама заявай міністра замежных справаў Беларусі аб жаданьні беларускага боку працягнуць удзел у ініцыятыве ЎсП.

Для беларускага кіраўніцтва да гэтага часу выдаткі пераважваюць выгады ад удзелу ва ЎсП. Праграма не дае наўпроставых інвэстыцый або фінансавых сродкаў для вырашэньня надзённых праблемаў у эканоміцы краіны, аднак наўзамен удзелу эўрапейцы патрабуюць зьмяненьня існай вэртыкалі ўлады ў краіне. Беларускае кіраўніцтва клапоціцца выключна пра захаваньне свайго палітычнага status quo і зацікаўленае ў разьвіцьці супрацоўніцтва, у першую чаргу ў сфэры энэргетычнай бясьпекі і эканамічнай інтэграцыі, у выхадзе беларускай прадукцыі на эўрапейскія рынкі, у заходніх інвэстыцыях у Беларусь. Каштоўнасныя рэформы, якія зьяўляюцца галоўным падмуркам супрацоўніцтва ЭЗ з краінамі-партнэрамі, ня толькі не ўваходзяць у прыярытэты афіцыйнага Менску, але і бачацца ім як пагроза рэжыму, які хацеў бы абмежаваць супрацоўніцтва з ЭЗ на галіновым і палітычным узроўні на ўмовах беларускага боку.

Акрамя таго, асобныя перавагі для грамадзянаў краін – удзельніцаў УсП не адпавядаюць інтарэсам беларускіх уладаў. Напрыклад, пэрспэктыва ўвядзеньня бязьвізавага рэжыму з ЭЗ, набліжэньне да якога праходзіць праз падпісаньне праекту “Рэформы і супрацоўніцтва ў галіне свабоды, справядлівасьці і бясьпекі” (FJS), не разглядаецца беларускім кіраўніцтвам як вартая ўвагі. Да гэтага часу афіцыйны Менск зацягвае рэалізацыю дамовы аб малым прымежным руху зь Літвой і Польшчай і спрабуе выкарыстаць гэтае пытаньне ў гандлі з афіцыйнай Варшавай па зьмякчэньні пазыцыі апошняй у дачыненьні да беларускага кіраўніцтва. У беларускіх уладаў няма зацікаўленасьці ў спрашчэньні візавага рэжыму для грамадзянаў прымежных рэгіёнаў, дзякуючы чаму болей за мільён беларускіх грамадзянаў маглі б вандраваць па краінах ЭЗ.

Адначасова беларускае кіраўніцтва працягвае перамовы зь міжнароднымі фінансавымі інстытутамі па прыцягненьні ў краіну стабілізацыйных крэдытаў. У пачатку кастрычніка Беларусь наведала чарговая місія МВФ, ад якой афіцыйны Менск хацеў бы атрымаць чарговы крэдыт на падтрыманьне стабільнасьці на валютна-фінансавым рынку краіны. З пачаткам дзейнасьці місіі МВФ беларускі ўрад зрабіў заяву аб новых формах дзяржаўнай падтрымкі малога і сярэдняга бізнэсу. Няўдзел у саміце кіраўнікоў краін – партнэраў па ЎсП, адной з задачаў якога зьяўляецца дапамога ў структурным пераўтварэньні постсавецкіх эканомік, падкрэсьлівае рэальныя намеры беларускага кіраўніцтва наконт рэфармаваньня беларускай гаспадаркі. Аднак варта зазначыць, што ў беларускім урадзе ўсё ж існуе “лібэральнае” лобі, якое зацікаўленае ў лібэралізацыі беларускай эканомікі і спрабуе скарыстацца зь існай сытуацыі.

Нягледзячы на дэмарш беларускага кіраўніцтва падчас саміту кіраўнікоў краін – партнэраў па ЎсП, у беларускіх уладаў застаецца магчымасьць выкарыстаньня іншых інструмэнтаў супрацоўніцтва з ЭЗ. Акрамя самітаў, што праходзяць кожныя два гады, сярод мэханізмаў супрацоўніцтва Эўразьвязу з краінамі -- партнэрамі па ЎсП зьяўляюцца:

*Для беларускага кіраўніцтва да гэтага часу выдаткі пераважваюць выгады ад ўдзелу ва Ўсходнім партнэрстве*



усходняе партнэрства

- EURONEST або Парлямэнцкая асамблея краін – удзельніц УсП;
- Сустрэчы на міністэрскім узроўні, якія падтрымліваюцца дзейнасьцю тэматычных плятформаў і праходзяць двойчы на год;
- Форум грамадзянскай супольнасьці;
- Канфэрэнцыя мясцовых і рэгіянальных органаў улады;
- Бізнэс-форум;
- Сустрэчы экспэртаў і флагманскія ініцыятывы для падтрымкі сэктаральнага супрацоўніцтва і набліжэньня да стандартаў ЭЗ.

Афіцыйныя беларускія ўлады выключаныя або бяруць абмежаваны ўдзел у асобных мерапрыемствах на палітычным узроўні, як, напрыклад, Парлямэнцкай асамблеі EURONEST і саміце кіраўнікоў краін – партнёраў УсП, якія афіцыйны Менск спрабаваў тарпэдаваць, выстаўляючы непрымальныя для эўрапейцаў умовы свайго ўдзелу. Нягледзячы на спробы беларускага кіраўніцтва, якое разумее важную ролю ў гэтых структурах прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь, перашкодзіць іх правядзеньню, першае паседжаньне Парлямэнцкай асамблеі EURONEST адбылося без афіцыйнай дэлегацыі Беларусі ў траўні 2011. Афіцыйны Менск паставіў жорсткай умовай свайго ўдзелу ў EURONEST фармаваньне беларускай дэлегацыі выключна з дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, у той час як ЭЗ хацеў бачыць у дэлегацыі, акрамя чальцоў беларускага парлямэнту, прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці і апазыцыі. Беларускі бок таксама жадаў атрымаць запрашэньне на ўдзел у саміце кіраўнікоў краін – партнэраў па ЎсП на найвышэйшым узроўні, аднак арганізатары саміту абмежаваліся запрашэньнем міністра замежных справаў. У абодвух выпадках ЭЗ заняў прынцыповую пазыцыю і не пайшоў на саступкі афіцыйнаму Менску.

Аднак беларускае кіраўніцтва можа выкарыстоўваць іншыя інструмэнты ініцыятывы ЎсП. Напрыклад, прадстаўнікі Савета рэспублікі ўдзельнічалі ва ўстаноўчым паседжаньні Канфэрэнцыі мясцовых і рэгіянальных органаў улады, якая адбылася напярэдадні саміту кіраўнікоў краін УсП 8 верасня 2011. Таксама беларуская дэлегацыя на чале з намесьнікам міністра эканомікі Беларусі Антонам Кудасавым была запрошаная на бізнэс-форум УсП, які праводзіўся 30 верасьня ў Сопаце. У рамках ініцыятывы ЎсП працягваецца супрацоўніцтва на галіновым узроўні, напрыклад, паміж мытнымі службамі, памежнікамі, узаемадзеяньне ў пытаньнях барацьбы з кібэрзлачыннасьцю, карупцыяй і г.д.

Нягледзячы на слабасьць пазыцый грамадзянскай супольнасьці ў самой Беларусі, якая пазбаўленая магчымасьці сур’ёзна ўплываць на зьмяненьне сытуацыі ў краіне, прысутнасьць беларусаў на Форуме грамадзянскай супольнасьці ЎсП – найбольш заўважная сярод іншых постсавецкіх краін -- партнэраў па ЎсП. Пры гэтым Эўразьвяз апошнім часам спрабуе выпрацаваць сур’ёзныя падыходы да грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі як да рэальнага партнэра. Практычна ўсё фінансаваньне праграмаў, зьвязаных зь Беларусьсю ў рамках УсП, ідзе на недзяржаўных суб'екты. Аднак гэта адбываецца галоўным чынам праз пазыцыю афіцыйнага Менску, які пайшоў на значныя парушэньні дэмакратычнага працэсу ў краіне, чым і выклікаў зьмяншэньне ўзроўню супрацоўніцтва ЭЗ з афіцыйнымі ўладамі краіны, асабліва на палітычным узроўні. Апошнім часам Эўрапейская служба замежных дзеяньняў прапанавала да рэалізацыі Інструмэнт грамадзянскай супольнасьці і Эўрапейскі фонд у падтрымку дэмакратыі для падтрымкі актыўнай грамадзкай дзейнасьці і маніторынгу падзей жыцьця грамадзянскай супольнасьці ў рэгіёне, у тым ліку ў Беларусі. Аднак пакуль ЭЗ не выпрацаваў зразумелых мэханізмаў рэалізацыі гэтага інструмэнту на практыцы.

Напярэдадні Форуму грамадзянскай супольнасьці ЎсП у Беларусі плянуецца правядзеньне Нацыянальнай канфэрэнцыі Форуму грамадзянскай супольнасьці, сярод асноўных задачаў якой будзе спроба інстытуалізацыі Нацыянальнай плятформы. У сытуацыі замарожаных на палітычным узроўні стасункаў афіцыйных уладаў Беларусі з ЭЗ Нацыянальная плятформа мае магчымасьць выступіць пасярэднікам у нармалізацыі стасункаў паміж Беларусьсю і ЭЗ, спрабуючы ахапіць як мага болей суб’ектаў грамадзянскай супольнасьці і выпрацаваць прымальныя для беларускага кіраўніцтва ўмовы рэфармаваньня палітычнай сыстэмы краіны. Пры гэтым пэўныя саступкі з боку прэзыдэнцкай адміністрацыі, якія не будуць мець фатальных наступстваў для дзейнага кіраўніцтва дзяржавы, могуць быць зробленыя ў выпадку шэрагу фактараў: далейшага пагаршэньня сацыяльна-эканамічнай сытуацыі ў краіне, нізкага рэйтынгу прэзыдэнта, нарастаньня ўнутранай напружанасьці ў краіне, узмацненьня ціску ўсходніх партнэраў і прынцыповасьці пазыцыяў заходніх краін у дачыненьні да Беларусі. ■

**Зьміцер Кухлей**

*прысутнасьць беларусаў на Форуме грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства зьяўляецца найбольш заўважнай сярод іншых постсавецкіх краін-партнэраў*




# Нацыянальная плятформа Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства для чайнікаў

## Усё, што вы хацелі знаць, але баяліся спытаць...

### Што такое Нацыянальная плятформа Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства?

Для адказу на гэтае пытаньне неабходна разабрацца адразу з трыма паняцьцямі: уласна “Ўсходняе партнэрства” (УсП), Форум грамадзянскай супольнасьці (ФГС) і Нацыянальная плятформа ФГС. Такім чынам, па парадку.

Усходняе партнэрства — гэта замежнапалітычная ініцыятыва/праграма Эўрапейскага зьвязу, скіраваная на выбудоўваньне стабільных і ўсебаковых адносінаў з краінамі, якія мяжуюць з ЭЗ на ўсходзе. УсП зьяўляецца свайго кшталту прапановай Эўразьвязу краінам-суседзям разьвіваць больш шчыльнае супрацоўніцтва і праводзіць рэформы ў абмен на фінансавую і тэхнічную дапамогу ад аб'яднанай Эўропы. Пачатак Усходняму партнэрству быў пакладзены ў траўні 2009 г. на Ўстаноўчым саміце ў Празе. Удзельнікамі праграмы сталі з аднаго боку дзяржавы і інстытуты ЭЗ, а з другога — шэсьць усходнеэўрапейскіх краінаў: Азэрбайджан, Армэнія, Беларусь, Грузія, Малдова і Украіна.

Навізна Ўсходняга партнэрства заключаецца ў тым, што яно прапаноўвае шматбаковы фармат супрацоўніцтва. Іншымі словамі, яно задумвалася як форма сумеснага і адначасовага супрацоўніцтва ЭЗ з усходнеэўрапейскай “шасьцёркай”, а таксама краінаў самой “шасьцёркі” паміж сабою. Да гэтага ж ЭЗ будаваў свае адносіны з суседзямі на двухбаковай аснове: складаў дамовы з асобнымі краінамі і супрацоўнічаў у рамках абумоўленых з урадамі гэтых краін праграмаў. УсП прадугледжвае рэгулярныя шматбаковыя сустрэчы па розных тэмах і на розных узроўнях, у тым ліку на ўзроўні разьдзелаў дзяржаваў і ўрадаў, і рэалізацыю шматбаковых праектаў.

Для Беларусі Ўсходняе партнэрства мае адмысловае значэньне. Мы, у адрозьненьне ад усіх іншых усходнеэўрапейскіх удзельнікаў праграмы, ня маем з ЭЗ паўнавартасных двухбаковых адносінаў. У нас няма ніякай двухбаковай базавай дамовы. А безь яе супрацоўніцтва з ЭЗ разьвіваецца абрывіста і бессыстэмна. Таму УсП зьяўляецца для Беларусі фактычна адзінай пляцоўкай для сталых зносін з прадстаўнікамі ЭЗ. Прытым гэта важна як для беларускіх уладаў, так і для прадстаўнікоў палітычнай апазыцыі і грамадзянскай супольнасьці.

Форум грамадзянскай супольнасьці — адзін са складовых элемэнтаў у арганізацыйнай структуры Ўсходняга партнэрства. Яшчэ да афіцыйнага запуску ініцыятывы ў дакумэнтах Эўрапейскай камісіі (2008 г.) адзначалася, што “рэформы (у краінах Усходняга партнэрства) патрабуюць больш актыўнага ўдзелу грамадзянскай супольнасьці ў мэтах узмацненьня нагляду за дзяржаўнымі паслугамі і ўмацаваньня даверу да іх з боку грамадзкасьці”. Гэта і стала галоўным чыньнікам стварэньня ФГС. Ён таксама павінен судзейнічаць разьвіцьцю кантактаў паміж няўрадавымі арганізацыямі ўсіх краін УсП, дыялёгу гэтых арганізацыяў з урадамі краін, якія яны прадстаўляюць, а таксама спрыяць абмену інфармацыяй і досьведам рэформаў, мадэрнізацыі.

Раз на год Форум грамадзянскай супольнасьці УсП зьбіраецца на ўсеагульную канфэрэнцыю (ужо адбыліся 3 такія канфэрэнцыі). У прамежках паміж канфэрэнцыямі працу Форуму каардынуе Кіроўны камітэт, які складаецца з 17 чалавек (як ад усходнеэўрапейскіх краінаў, так і ад краінаў ЭЗ). Характэрна, што, паводле агульнага меркаваньня, дэлегацыя грамадзянскай супольнасьці Беларусі ад самага пачатку зьяўляецца самай актыўнай на ФГС.

Нацыянальная плятформа — аб'яднаньне няўрадавых арганізацый, зацікаўленых ва ўдзеле ў ФГС УсП на нацыянальным узроўні. На сёньняшні дзень Нацыянальныя плятформы створаныя ва ўсіх шасьці ўсходнеэўрапейскіх краінах — удзельніцах УсП.

У Беларусі рашэньне аб стварэньні Нацыянальнай плятформы было прынятае на канфэрэнцыі “Удзел грамадзянскай супольнасьці Беларусі ў ініцыятыве Ўсходняга партнэрства”, якая адбылася 22 красавіка 2009 г. Па выніках канфэрэнцыі было заяўлена аб “неабходнасьці разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці з выкарыстаньнем мэханізмаў, закладзеных у ініцыятыве Ўсходняга партнэрства”.

### Для чаго патрэбная беларуская Нацыянальная плятформа ФГС?

Нацыянальная плятформа Беларусі закліканая выконваць адразу некалькі функцыяў.

Унутры Беларусі, па-першае, Нацыянальная плятформа павінная спрыяць аб'яднаньню няўрадавых арганізацыяў на аснове таго, што часта завецца “эўрапейскімі каштоўнасьцямі”: правы і свабоды чалавека, дэмакратыя, верхавенства закону і г.д. Пашырэньне і ўзмацненьне Нацыянальнай плятформы, такім чынам, будзе пазытыўна адбівацца на разьвіцьці ўсёй грамадзянскай супольнасьці Беларусі. Па-другое, чым больш шматлікай, уплывовай і прадстаўнічай будзе Нацыянальная плятформа, тым больш шанцаў у беларускай грамадзянскай супольнасьці будзе ўплываць на дзеяньні і рашэньні ўладаў Беларусі, тым больш да меркаваньня няўрадавых арганізацый будуць прыслухвацца службоўцы, тым больш магчымасьцяў будзе ў плятформы ў цэлым і асобных НДА ў прыватнасьці.

У адносінах з ЭЗ нацыянальная плятформа закліканая быць выразьнікам агульнага меркаваньня (калі яно выпрацаванае і ўзгодненае) усяе грамадзянскае супольнасьці ў адносінах з інстытуцыямі і краінамі Эўразьвязу. З дапамогай Форуму грамадзянскай супольнасьці няўрадавы сэктар Беларусі можа даносіць свае ідэі, якія часта адрозьніваюцца ад урадавых, да эўрапейскіх палітыкаў, службоўцаў і грамадзянскіх актывістаў. Нацыянальная плятформа таксама дапамагае разьвіцьцю працоўных кантактаў асобных беларускіх НДА з партнэрамі ў ЭЗ.

У рамках усходнеэўрапейскай “шасьцёркі” Нацыянальная плятформа закліканая спрыяць разьвіцьцю супрацоўніцтва паміж няўрадавымі арганізацыямі Беларусі з НДА з Азэрбайджана, Армэніі, Грузіі, Малдовы і Ўкраіны. Прытым гэтае супрацоўніцтва можа адбывацца ў выглядзе двухбаковых або шматбаковых праектаў, а таксама ў рамках выпрацоўкі супольнага бачаньня разьвіцьця Ўсходняга партнэрства, адзіных пазыцый па тых або іншых актуальных палітычных або сацыяльна-эканамічных пытаньнях.

Пры ўмове пасьпяховай працы па ўсіх трох кірунках Нацыянальная плятформа магла б сапраўды зрабіцца гарантам публічнасьці і празрыстасьці працэсаў прыняцьця і рэалізацыі рашэньняў у рамках Усходняга партнэрства.

### Праблемы Нацыянальнай плятформы Беларусі:

Гаворачы пра праблемы беларускай Нацыянальнай плятформы, таксама можна вылучыць некалькі ўзроўняў:

Унутрыбеларускі. Праз спэцыфіку палітычнай сыстэмы ў Беларусі Нацыянальная плятформа мае дзьве асноўныя і вельмі сур'ёзныя праблемы. Па-першае, гэта нежаданьне ўладаў супрацоўнічаць з НДА і нават прызнаваць уваходных у Нацыянальную плятформу арганізацыі прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасьці. Па-другое, гэта раскол і сталыя канфлікты ўнутры самога няўрадавага сэктару, што таксама зьяўляецца адлюстраваньнем палітычнай сытуацыі ў краіне.

Узровень адносінаў з ЭЗ. Нягледзячы на поўную і сталую падтрымку “на словах”, мала хто з палітыкаў і службоўцаў Эўразьвязу разглядае Нацыянальную плятформу як паўнавартаснага партнэра, на якога варта рабіць сур'ёзную стаўку ў рамках адносінаў з нашай краінай. Гэта, зразумела, зьяўляецца адлюстраваньнем рэальнай сілы грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі. Аднак праз гэта ініцыятывы Нацыянальнай плятформы знаходзяцца ў сталай залежнасьці ад існага стану адносінаў паміж афіцыйнымі Менскам і Брусэлем.

### Пэрспэктывы беларускай Нацыянальнай плятформы ФГС:

Уяўляецца, што пасьпяховасьць Нацыянальнай плятформы Беларусі шмат у чым будзе залежаць ад здольнасьці лідэраў беларускіх НДА пазбаўляцца ад залішняй амбітнасьці і сканцэнтроўвацца на рашэньні рэальных і першарадных задачаў. На замежным узроўні гэта адмова ад прэтэнзіяў на паўнавартасную палітычную ролю ў рамках Усходняга партнэрства. Гэтым амбіцыям у любым выпадку не наканавана рэалізавацца, а высілкаў і энэргіі яны адбіраюць шмат. Таму сілы лепш скіраваць на рэалізацыю разнастайных праектаў. На нацыянальным узроўні варта сканцэнтравацца на “нарошчваньні арганізацыйных мускулаў”, а не на дэманстрацыі іх адсутнасьці. ■

**Яўген Прэйгерман**



усходняе партнэрства

# ТБМаўскі Гомель

***Хтосьці можа сказаць, што Гомель – самы расейскамоўны горад Беларусі і што беларускую мову тут можна пачуць толькі на школьных уроках. Але ёсьць у гэтым горадзе людзі, якія сапраўды змогуць давесьці вам, што гэта зусім ня так. Прычым ня проста, як кажа цяпер моладзь, “для замалёўкі”, а шчыра, з усёй душой. Гэтыя людзі – сябры і прыхільнікі Гомельскага таварыства беларускай мовы.***

Незацікаўлены чалавек скажа: “Ды які ТБМ!? Там жа, напэўна, адны старыя бабулькі ды дзядулькі...” Скажа – і ня будзе мець рацыі, бо Гомельскае ТБМ – гэта некалькі дзясяткаў неабыякавых маладзёнаў, якія ставяць перад сабой мэту зьберагчы і ўшанаваць родную мову ды культуру, а ў пэўнай ступені – нават адрадзіць.

Існая даўно арганізацыя ў 2009 годзе была адноўленая і перарэгістраваная гомельскімі беларускамоўнымі хлопцамі ды дзяўчатамі, якія вырашылі зрабіць выклік тым, хто лічыць, што беларуская мова зьмярцьвела. Ад таго часу пэрыядычна праводзяцца рознага кшталту мерапрыемствы: творчыя сустрэчы, летнікі, рэалкі, экскурсіі, майстар-клясы па танцах і г.д.. Туды прыходзяць як беларускамоўныя, так і тыя, хто жадае навучыцца мове ці проста пабачыць беларусаў, як кажуць, “ужывую”.

Такія сустрэчы – гэта сапраўдны адпачынак, шанец знайсьці новых сяброў і знаёмых ці здабыць новыя веды, а ахвотным навучыцца размаўляць па-беларуску ў арганізацыі заўсёды асабліва рады і гатовыя дапамагчы.

## Новы век – новыя мэтады

Час не стаіць на месцы, мэтады працы таксама зьмяніліся і ў ТБМ. Цяпер актывісты самаарганізоўваюцца праз сацыяльныя сеткі і інтэрнэт. Вось і гамельчукі стварылі свой інфармацыйны партал, на якім можна сачыць за культурнымі і грамадзкімі падзеямі і мерапрыемствамі рэгіёну – “КЛІЧНІК.INFO” (http://kli4nik.info/).

Сайт апэратыўна абнаўляецца і мае даволі добрую наведвальнасьць. Тамсама можна пачытаць і газэту на беларускай мове “Толькі разам” – самвыдат Гомельскага аддзяленьня ТБМ.

## Гомельскае ТБМ вачыма сяброў і прыхільнікаў

Марыя Булавінская (намесьнік старшыні): “У Гомелі таварыствам ладзяцца імпрэзы, экскурсіі, творчыя сустрэчы зь цікавымі людзьмі. Вельмі радуе, што сёлета зьявілася вельмі шмат новых людзей, гатовых працаваць на глебе адраджэньня роднай мовы, культуры, гістарычнай спадчыны. Толькі калі нашыя шэрагі будуць папаўняцца, мы зможам сказаць, што нашая дзейнасьць апраўдвае сябе. Новыя людзі зьяўляюцца, і хочацца спадзявацца, што беларуская справа ня будзе страчаная і забытая.

Сябры ТБМ запрашаюць усіх зацікаўленых да ўдзелу ў нашых мерапрыемствах, сьвяткаваньня разам беларускіх сьвятаў і добрых справаў на карысьць роднага слова”.

Вольга Баразноўская (прыхільніца): “Мне падабаецца, што ў ТБМ няма арганізаванай палітычнай агітацыі, таму людзі не баяцца прыходзіць на розныя мерапрыемствы. Я была на беларускамоўных рэалках, і мне спадабалася размаўляць з тымі, хто любіць нашую мову. Таксама было багата цікавых людзей, і ўсе такія розныя! Мне ўвогуле падабаецца знаёміцца, асабліва з тымі, у каго яшчэ ёсьць нешта сьвятое ў душы. Цікавыя нават тыя, хто прыйшоў толькі паглядзець на нас – такіх “дзівакоў”, якія размаўляюць на роднай мове. Вельмі сумна, што ў наш час, калі размаўляеш па-беларуску, цябе пытаюць, чаму.

Зьміцер Суліменка (прыхільнік): “Дзейнасьць гомельскага ТБМ я ацэньваю ў цэлым станоўча. Гэтыя два гады пасьля аднаўленьня гомельскай гарадзкой арганізацыі бачна, што людзі працуюць. Праводзяцца цікавыя сустрэчы зь пісьменьнікамі, адбываюцца вызяныя летнікі, а гэтым летам быў запушчаны сайт "kli4nik.info". Гэта ня можа ня радаваць, бо ў Гомелі раней ніхто цэнтралізавана не займаўся такой дзейнасьцю. Былі пэўныя ініцыятывы з боку неабыякавых гамельчукоў, але яны хутка згасалі. Галоўнае, каб не было ўнутраных супярэчнасьцяў і шэрагі гомельскай гарадзкой арганізацыі папаўняліся новымі кадрамі".

Ганна Новік (сябра): “Рэакцыя на пачутае роднае слова ў гамельчукоў неадназначная – ад зьдзіўленьня





і захапленьня да агрэсіі. Хтосьці спрабуе высьветліць паходжаньне беларускамоўнага (“Вы, мабыць, з Заходняй Беларусі?”; “Мова нейкая знаёмая... палякі, здаецца?”), нехта спачувальна ўздыхае (“Малойца... і ня цяжка ж... якая мова каларытная... а мне ўжо позна перавучвацца”), хтосьці прытворна закідае лёстачкі (“Я таксама мову беларускую люблю-у-у!”). Некаторыя літаральна паказваюць пальцам (“Во, апазыцыя!”), дэманструюць уласныя нявыхаванасьць і бескультур'е і ўступаюць у дыскусію з мэтай пераканаць у жыццёвай неабходнасьці падтрыманьня “вялікай і магутнай”.

Ня так даўно, набываючы нешта ў газэтным шапіку, пачула ад гандляркі чысьцюткую беларускую мову і пытаньне, адкуль столькі беларускамоўных у Гомелі. А гэта, дарэчы, ставіць пад сумнеў тое, што наш горад – самы расейскамоўны ў Беларусі.

## Жыве і будзе жыць справа адраджэнцаў

ТБМаўцы ў сваёй справе ставяць мэту зьвярнуць увагу на моўныя і культурныя праблемы: ладзяць прагляды фільмаў на беларускай мове ў навучальных установах, экскурсіі па старым Гомелі, рознымі сродкамі інфармуюць жыхароў пра праблемы гораду.

Прыкладам ёсьць праблема разбурэньня старажытнай драўлянай забудовы ў цэнтры Гомеля. Дзякуючы менавіта актывістам таварыства людзі даведаліся пра гэта і сталі актыўна дыскутаваць, шукаючы і прапаноўваючы спосабы вырашэньня.

Моладзь гомельскага ТБМ, няхай і невялічкімі крокамі, але рухаецца да адраджэньня беларускай мовы і культуры. ■

**Марына Драбышэўская**



1. Майстар-клас па народных танцах разам з «Талакой»
2. Танцы пад дуду
3. Дыктоўка ў Гомелі ў дзень роднай мовы
4. Экскурсія па драўляным горадзе
5. Сьвяткаваньне юбілею Ніла Гілевіча
6. Каша па-радзівілаўску на першым беларускамоўным летніку
7. Беларускамоўная рэалка
8. Экскурсія па Гомелю Шабунеўскага



# “А навошта гэта вам і нам?”

**Грамадзкі актывіст з Воршы Ігар Казьмерчак — пра няўдзячнасьць сацыяльных ініцыятываў. А таксама пра тое, што трэба памятаць пры арганізацыі талакі, прыбіраньня тэрыторыі ды збору сродкаў на дабрачыннасьць.**

### “Суботнікі” людзям надакучылі

Адзін з добрых мэтадаў пазытыўнай дзейнасьці – мэтад талакі. Грамадзкая арганізацыя заклікае людзей нешта зрабіць сваімі сіламі, рэклямуе мерапрыемства, людзі зьбіраюцца і робяць. Праўда прыгожа? Але ж казка! У жыцьці ўсё складаней.

Першае, з чаго трэба зыходзіць, рыхтуючы такое мерапрыемства: людзям вашая ідэя, на жаль, абыякавая. Розната кшталту “суботнікі” людзей проста стамілі. І працаваць бясплатна на чыйсьці заклік ня хочацца нават для “саміх сябе”.

Другое: чаму вы лічыце, што тое, што важна для вас, важна і для вашай мэтавай групы? Вам цікава, каб у выніку вашай акцыі дзесьці зьявілася спартовая або дзіцячая пляцоўка, але ці ва ўсіх, да каго вы зьвяртаецеся, ёсьць дзеці? А ці ва ўсіх з тых, у каго ёсьць дзеці, ёсьць вольны час, каб гадзіну папрацаваць “на грамадзтва”?

Розныя грамадзкія арганізацыі неаднаразова ладзілі такія акцыі. І заўважце, мала існуе аб’яднаньняў, якія рабілі б такія мерапрыемствы менавіта пастаянна. Часьцей гэта ўсё ж разавыя мерапрыемствы, не разьлічаныя на прыцягненьне вялікай колькасьці людзей.

Калі вы, улічыўшы магчымыя мінусы, усё ж вырашыце правесьці такога кшталту акцыю, варта пралічыць наступнае.

Вы аніяк не абыдзецеся без уласных актывістаў, валянтэраў. Менавіта сябры арганізацыі будуць складаць у вашай акцыі ня менш за 60% удзельнікаў – астатнія далучацца, калі пабачаць, што хоць нехта прыйшоў. Таму пачынаць рыхтаваць “суботнік” з 2-3 чалавек неэфэктыўна. Удвох ці ўтрох і будзеце корпацца. Каб паказаць людзям, што камусьці вашая ідэя патрэбная, “сваіх” валянтэраў трэба ня менш за дзясятак. Такое неабходна, каб чалавек, які захоча далучыцца, не адчуваў сябе “белай варонай”, а ўтульна зьмяшаўся з “натоўпам”.

Рэклама праз сацыяльныя сеткі ў дадзеным выпадку, для збору людзей аніяк не падыходзіць. Аматары сацыяльных сетак – катэгорыя даволі лянівая. На ўзроўні вялікага горада з пары дзясяткаў тысячаў інтэрнаўтаў некалькі чалавек на такое мерапрыемства сабраць можна будзе. Але калі ў горадзе дзьве-тры тысячы карыстальнікаў, надзеі на посьпех можна пакінуць. Інтэрнэт патрэбны будзе як сродак масавай інфармацыі для стварэньня пазытыўнага іміджу, але не для пошуку валянтэраў.

Пажадана, каб заклікаў да ўдзелу чалавек вядомы той мэтавай групе, на якую вы арыентуецеся (мікрараён, дом, пад’езд). Бо ў час падрыхтоўкі такіх мерапрыемстваў у людзей пастаянна ўзьнікае пытаньне, навошта гэта ВАМ (недзяржаўным арганізацыям)? Калі адказ прапісаць ва ўлётках -- маўляў, мы хочам, каб было чыста, – грамадзяне проста не паверыць. Перш за ўсё людзі будуць шукаць ваш мэркантыльны матыў. І гэта будзе асноўным аргумэнтам у прыняцці рашэньня: удзельнічаць ці не. Бо грамадзянін можа паставіць наступнае пытаньне: “А навошта я буду дапамагаць ІМ дасягнуць ІХНАЙ мэты”.

Чалавек, які заклікае выйсьці на акцыю, павінен быць вядомым і даступным, каб любы мог задаць яму ўдакладняльнае пытаньне: а навошта гэта табе? А такое пытаньне людзі задаваць будуць не праз тэлефон, не праз інтэрнэт, а толькі пры сустрэчы, на якой зойдзе размова пра акцыю.

Пры гэтым для самой талакі павінна быць усё падрыхтавана: людзі павінны прыйсьці на ўсё гатовае. Прыйсьці, зрабіць мінімум рухаў і стаць нечакана для сябе героямі, якімі могуць ганарыцца іхныя дзеці.

Прывяду канкрэтны прыклад. На акцыі, якія мы праводзілі ў Воршы, заклікаючы рамантаваць і ствараць новыя спартовыя пляцоўкі, выходзілі адзінкі незаангажаваных людзей. І гэта былі не пралікі ў плянаваньні або рэкляме – гэта аб’ектыўная рэчаіснасьць. Колькі людзей у сярэднім для Беларусі горадзе можа





падтрымаць ідэю сваімі рукамі рабіць спартовыя пляцоўкі? Не выключаю, што пад іншую праблему сабралася б іншая колькасьць.

### “Я ж там сьмецьця ня кідаў”

Праблемы, зьвязаныя з прыборкай тэрыторыі, – тыя ж самыя. Людзі, якіх вы заклікаеце далучыцца да акцыі, хочуць разумець, навошта гэта ім і навошта гэта вам. Але ўскладняюць матывацыю грамадзян пры такіх акцыях два апраўданьні: “Я ж там сьмецьця ня кідаў” і “Там усе гадзілі, чаго я буду прыбіраць?” І хутчэй за ўсё ніводны чалавек з тых, хто насмрэч мае дачыненьне да, напрыклад, стыхійных сьметнікаў, на такую акцыю ня выйдзе.

Зноў прыклад з Воршы. У нашым горадзе на акцыю па прыборцы ракі Куцеінка з 80 чалавек прыйшло 15 незаангажаваных людзей. Пры гэтым улёткі масава былі распаўсюджаныя ў гаражным кааперативе, які зьяўляецца адным з асноўных забруджвальнікаў ракі. З кааперативу прыйшоў увогуле адзін чалавек.

Самае ж дрэннае, што пры ўсёй, здавалася б, патрэбнасьці такіх акцыяў грамадзяне сур’ёзна да арганізатараў не ставяцца. Калі ў выпадку талакі людзі задаюцца пытаньнямі, “навошта гэта трэба нам і вам”, то ў дадзенымі выпадку, мабыць, праз нейкія стэрэатыпы, такіх пытаньняў не задаецца. Калі нехта прыбірае месца, дзе ўсе астатнія кідаюць сьмецьце, значыць альбо ім заплацілі за прыборку, і тады да актывістаў будзе стаўленьне як да прыбіральшчыкаў, альбо гэта эколягі-фанатыкі, і яны ўсё адно будуць прыбіраць, колькі б мы тут ні накідалі. “Ну і давайце ў такім выпадку гэтым актывістам падкінем яшчэ пару пустых бутэлек. Усё адно прыбяруць тое, што накідаем”, – мяркуюць некаторыя нашыя грамадзяне.

На жаль, ад такога стаўленьня горы сьмецьця, здараецца, вырастаюць яшчэ хутчэй пасьля таго, як яго там прыбяруць. Зьвярніце ўвагу, што большасьць экалягічных ініцыятываў або ніколі не займаліся такой дзейнасьцю, або адмаўляюцца ад яе.

Таму такая дзейнасьць выдатна можа выкарыстоўвацца для паляпшэньня іміджу ці як частка нейкай кампаніі па экалягічным выхаваньні. Як самастойная экалягічная акцыя яна можа даць, на жаль, і адваротны вынік – рост сьмецьця.

Неабходна зьвярнуцца па дапамогу да камунальнікаў або да мясцовых уладаў. Бо сабранае сьмецьце трэба будзе тут жа вывозіць на палігоны. А такую магчымасьць яны могуць вам прадставіць у якасьці бескаштоўнай падтрымкі ініцыятывы ці за асобную аплату транспартных выдаткаў. Пакідаць сабранае сьмецьце на месцы, дзе вы яго зьбіралі, нават запакаваным у мяхі, бессэнсоўна. Вы створыце новае месца лякалізацыі сьмецьця, якое ніхто прыбіраць не будзе.

Рэкляму варта рабіць як у раёнах блізкіх да месца акцыі, так і па ўсім горадзе. Бо аматараў экалёгіі сёньня даволі шмат, і яны хутчэй далучацца да ініцыятывы, чым суседзі сьметніка. У гэтым выпадку нам могуць падысьці для рэклямы і сацыяльныя сеткі – галоўнае натрапіць на аматараў экалёгіі. Пры гэтым оф-лайн рэкляма ўсё адно будзе ў разы эфэктыўнейшая.

І галоўнае: разавая прыборка праблемы не вырашыць. Нават калі мясцовае насельніцтва не падтрымала акцыі сваёй працай і прысутнасьцю, зь імі трэба працаваць, каб сьметнік не зьявіўся зноў. Іначай карысьці ад вашай акцыі будзе зусім мала. .

### “Ачышчэньне кармы” для лянотных

Калі вы заклікаеце кагосьці здаць рэчы або грошы на добрую справу, не чакайце, што вам панясуць іх мяхамі. На карысную справу людзі сапраўды гатовыя ахвяраваць. Даць камусьці грошай прасцей, чым самому прыйсьці і нешта рабіць. Я б назваў гэты мэтад “ачышчэньнем кармы” для лянотных. Даў грошы – і, здаецца, зрабіў нешта вельмі карыснае.

Зноў канкрэтны прыклад. За апошні год у Воршы прайшлі дзьве вялікія акцыі па зборы сродкаў. Адзін быў для сям’і палітвязьня Мікалая Разумава, другі – для дзіцячага дому №1. Абодва прайшлі даволі пасьпяхова.

Але ёсьць і праблемы. Ня кожнаму ў нашай краіне дазволена займацца такой дабрачыннасьцю. І не заўсёды тое, што нам здаецца вельмі важным, будзе патрэбна людзям, якія атрымаюць потым нашую дапамогу.

Напрыклад, у афіцыйныя ўстановы наяўных грошай лепш не перадаваць. У іх усё па бюджэце расьпісана. Таму ім будзе праблематычна правесьці вашую дапамогу праз бюракратычныя заслоны. Таксама дзіцячым дамам часьцей за ўсё не патрэбныя тэхніка, бо яе хапае ад замежных спонсараў. І ні ў якім выпадку без папярэдняй дамоўленасьці ня варта перадаваць харчаваньне. Ня варта зьбіраць рэчы, што былі ў карыстаньні. Тыя ж дзеці-сіроты – не бамжы, і хадзіць у паношанай вопратцы ім ня надта хочацца.

У ідэале перад тым як аказваць дапамогу варта паразмаўляць з будучым атрымальнікам пра тое, што канкрэтна ім патрэбна. Загадзя абгаварыць усе юрыдычныя моманты. Калі дапамагаеце афіцыйнай установе, усе рэчы павінны быць прынятыя па адмысловым акце. Перш за ўсё для дзіцячых дамоў неабходная вопратка, абутак і прадметы гігіены.

Але больш за ўсё дзецям-сіротам патрабуецца простая ўвага. Таму калі вы зь імі ў футбол пабегаеце або песьні пасьпяваеце, карысьці будзе больш, чым ад тых грошай, якія вы ім зьбераце.

Іншы выпадак, калі вы зьбіраеце сродкі для палітвязьняў. Тут часьцей патрабуюцца грошы. Зразумела, калі гаворка не ідзе пра перадачы ў ізалятары часовага ўтрыманьня.

Не забывайцеся, што людзі, якія давалі вам свае сродкі для дапамогі, хочуць ведаць, куды яны пайшлі. Не палануйцеся падзякаваць людзям пасьля перадачы сродкаў.

Дабрачыннасьцю займацца прыемна. Але варта памятаць, што моцна папіярыцца на гэтым не атрымаецца . ■

**Ігар Казьмерчак**

# Vitebsk4.me




**Ганна Журавінка адшукала, што яшчэ можа зацікавіць віцебчукоў, акрамя Славянскага базару і цэнаў на цукар.**

У культурнай сталіцы шмат крэатыўных ды творчых людзей, дзейнасьць якіх скіраваная на культурніцкае разьвіцьцё роднага гораду. А дзе ёсьць грамадзкая актыўнасьць – там існуе і інфармацыйная пляцоўка, праз якую можна мабілізаваць творчы патэнцыял моладзі, ажыцьцяўляць рознага кшталту праекты. У Віцебску такой інфармацыйнай пляцоўкай ёсьць сайт vitebsk4.me.

У 2008 годзе на базе супольнасьці “Віцебск – для мяне!”, чыё ядро і цяпер складаюць моладзевыя грамадзкія актывісты, неабыякавыя да гісторыі, сучаснага стану ды далейшага паўнавартаснага культурніцкага разьвіцьця гораду, паўстаў сайт з аднайменнай назвай – vitebsk4.me. Гэты інфармацыйны партал даўно ўжо зьяўляецца люстэркам жыцьцядзейнасьці прагрэсіўнай моладзі Віцебска. Тут разьмешчаная розная інфармацыя: ад правядзеньня конкурсаў на гістарычную тэматыку да фотаздымкаў з апошняй рэтра-вечарыны на “Паддашку” – улюбёным месцы тусовак маладых віцебчукоў.

У Беларусі даволі складана знайсьці рэгіянальны сайт, ствральнікі якога крочаць у нагу з часам, імкнуцца адпавядаць эўрапейскім стандартам і адлюстроўваюць падзеі ў родным горадзе з дапамогай ня толькі якасных тэкстаў, але і фотаздымкаў і сапраўднага рэпартажнага відэа. Адразу згадваюцца толькі сталічныя інфармацыйныя пляцоўкі кшталту сайтаў “Будзьма!” альбо 34mag.net. Аднак згадзіцеся, пра Менск гаворка адмысловая. Але ў Віцебску таксама ёсьць падобны сайт! І хаця і існуюць пэўныя праблемы. І часам атрымліваецца крыху ня так, як плянавалася, аднак партал разьвіваецца і пашырае аўдыторыю чытачоў.

Супольнасьць Vitebsk4.Me імкнецца даць жыхарам Віцебска максымальна шырокую і своечасовую інфармацыю пра канцэрты і выставы, фэсты і кінапрэм'еры, спэктаклі і клюбныя вечарыны, што адбываюцца ў горадзе. Аднак гэта далёка ня поўны сьпіс таго, што робіць сайт. Ён таксама ўяўляе зь сябе плятформу для самарэалізацыі маладых музыкаў, журналістаў, мастакоў, фатографаў, займаецца пошукам аднадумцаў і партнэраў, сваёй мэтавай аўдыторыі, памочнікаў і інш.

Прадстаўнікі “Віцебск – для мяне!” – яшчэ і арганізатары шматлікіх мерапрыемстваў. Напрыклад, менавіта дзякуючы іхным намаганьням віцебчукі нядаўна займелі магчымасьць ужывую паслухаць галоўных беларускіх хіпстараў -- гурт Akute -- ці павучыцца размалёўваць вінілавыя цацкі ў рамках усебеларускай выставы Vinyl Toys Show. Нават апошні дазволены на Беларусі канцэрт “Ляпісаў” у лютым 2011 быў зарганізаваны гэтай супольнасьцю. І гэта, канечне, толькі некаторыя з дасягненьняў.

Калі супольнасьць “Віцебск – для мяне!” праводзіць конкурс, сайт вельмі актыўна ўключаецца ў працэс. Так сталася з конкурсам “Замкі Віцебска: старонкі славутай гісторыі”, што праходзіў у лютым 2011 года ў горадзе і Віцебскім раёне. У гэтым конкурсе навуковых прац па гісторыі віцебскіх замкаў маглі ўдзельнічаць усе ахвотныя жыхары гораду і раёну ва ўзросьце ад 16 да 25 гадоў. Тэматыка конкурсу была вельмі разнастайная: асаблівасьці архітэктуры замкаў, ваенная гісторыя, вядомыя гістарычныя постаці, тым ці іншым чынам зьвязаныя з замкамі, і г.д. Ад аўтараў патрабавалася абраць са сьпісу адну з тэмаў і напісаць невялікі артыкул з абавязковым прыкладаньнем бібліяграфіі. Зразумела, вялікім плюсам былі візуальныя матэрыялы (ілюстрацыі, схемы, пляны). У конкурсе ўзяло ўдзел каля 30 чалавек. Як толькі распачаўся конкурс, на базе хостынгу сайта vitebsk4.me была створаная асобная старонка “Замкі Віцебска”. А гэта спрыяла прасоўваньню праекта ў “масы”. Праект стаўся пасьпяховым. Галоўны прадукт конкурсу – мультымэдыйны зборнік “Замкі Віцебска”, які складаецца з дасьледчых тэкстаў па гісторыі гораду, цікавага ілюстрацыйнага шэрагу, відэаэкскурсій па сучаснай тэрыторыі замкаў – спампавала з інтэрнэту некалькі сотняў чалавек.

Адна з асаблівасьцяў сайта – у яго адкрытасьці. Кожны, хто жадае выявіць сябе, можа паўдзельнічаць у разьвіцьці сайта, зрабіць яго паўнавартасным адлюстраваньнем усіх бакоў культуры Віцебска. Можна таксама зрабіць унёсак у разьвіцьцё творчай тусоўкі праз стварэньне старонак музычных гуртоў, інфармаваць наведнікаў пра заплянаваныя падзеі, дзяліцца ўражаньнямі ад тых, што ўжо адбыліся. Такім чынам, на сайце раней ці пазьней зьявіцца інфармацыя пра тую ці іншую падзею, якая пакінула адбітак у сэрцах наведнікаў. І кожны можа ўзяць удзел у яе асьвятленьні – было б жаданьне.

“Vitebsk4.me – гэта, з аднаго боку, інфармацыйны сайт супольнасьці “Віцебск -- для мяне!”, а з другога – пляцоўка, якая акумулюе разнастайныя ініцыятывы Віцебшчыны, адлюстроўвае сацыяльна-культурнае моладзевае жыцьцё”, – расказаў адзін з арганізатараў сайта,

Задача сайта – ня столькі ў распаўсюдзе навінаў, колькі ў актывізацыі моладзевых ініцыятываў у жыцьці горада. Прычым гаворка ня толькі пра вядомыя ў Віцебску зарэгістраваныя арганізацыі. “Нам дасылаюць інфармацыю, што нехта штосьці вырашыў зрабіць. Напрыклад, маладыя людзі захацелі прыбраць сьмецьце ўздоўж ракі. Яны паведамілі нам, дзе, калі і як будзе адбывацца мерапрыемства. Мы абавязкова паведамляем пра гэта”, – зазначае прадстаўнік суполкі “Віцебск – для мяне!”. І дадае: “Таксама нам можна дасылаць фотарэпартажы, актуальныя навіны з тых культурніцкіх мерапрыемстваў, на якія вам пашчасьціла трапіць”.

Суполка “Віцебск – для мяне!” працягвае змагацца зь неадукаванасьцю і абыякавасьцю. І гэта ў яе нядрэнна атрымліваецца. Каб упэўніцца, дастаткова завітаць на сайт vitebsk4.me. ■

**Ганна Журавінка**



# Parady

## СМІ пра НДА

Пошук | Мне пашчасціць

Дзеля цікавасьці паглядзела ў архіве рэгіянальныя навіны, якія я пішу для рэспубліканскага выданьня. Налічыла за месяц ня больш за пяць навінаў, якія дптычаць дзейнасьці НДА ў Гомельскай вобласьці. Або іх няма — НДА, або я іх ня бачу, ня чую, або яны не заўважаюць мяне.

Аказваецца, яны — розныя ГА, грамадзянскія ініцыятывы — ёсьць. У Гомельскай вобласьці зарэгістравана 218 мясцовых грамадзкіх аб'яднаньняў. Ёсьць яшчэ шэраг грамадзянскіх ініцыятываў, незарэгістраваных арганізацый, якія таксама вядуць сваю дзейнасьць. Зрэшты, часта гэтая дзейнасьць нейкая падпольная, калі на стужках навінаў гады ў рады сустрэнеш успамін пра ініцыятыву ці грамадзянскую кампанію.

Пачнем з таго, што журналіст першапачатковую інфармацыю шукае ў інтэрнэце. Але пошукі ў глябальнай сетцы не далі вынікаў: большасьць зарэгістраваных ГА ня маюць сайтаў, а калі і маюць, то яны не інфарматыўныя. Да прыкладу, адна з грамадзкіх арганізацый з «жаночым» ухілам прапануе на сваім сайце агледзець палітычную карту Эўропы, на якой пазначаная Беларусь. Якіх-небудзь навінаў там няма наогул. Зь лютага не абнаўляўся сайт адной з маладзевых экалягічных грамадзкіх арганізацый. Аналягічная сытуацыя на многіх сайтах трэцяга сэктару.

Нядаўна прайшла прэзэнтацыя адмысловай старонкі ў інтэрнэце, створанай НДА і прысьвечанай дзецям і іх праблемам. З часу прэзэнтацыі новай інфармацыі на сайце не зьявілася, нават пра прэзэнтацыю гэтага ж сайту там ніхто не напісаў. Хоць ініцыятары яго стварэньня заяўлялі, што старонка ў інтэрнэце будзе цікавай, дынамічнай і карыснай, абяцалі, што там будзе даведачная, статыстычная, прававая інфармацыя. Няма. Будзем спадзявацца, што пакуль.

Зрэшты, некаторыя грамадзкія арганізацыі (вось толькі ці маю я маральнае права залічыць іх да НДА, калі яны ў большай ступені дзяржаўныя, да прыкладу, БРСМ?) час ад часу пачынаюць актыўна «спаміць» журналістаў, кожны дзень дасылаючы прэс-рэлізы. Прычым прэс-рэлізы гэтыя нецікавыя і аднастайныя: усе мерапрыемствы праводзяцца альбо «з мэтай прапаганды здаровага ладу жыцьця», альбо «з мэтай патрыятычнага выхаваньня моладзі, фармаваньня ў маладых людзей пачуцьця любові да Радзімы». Імаверна, актыўнасьць «спамэраў» залежыць ад загаду зьверху, або фазаў месяца. Таму што, закідаўшы электронную скрыню за два дні рознымі анонсамі пра мерапрыемствы, «адказныя за СМІ» забываюцца на свае абавязкі надоўга. Трэба адзначыць непісьменнасьць складаньня прэс-рэлізаў. Прычым у наўпростым сэнсе слова — граматычныя памылкі, няўзгодненыя словы ў сказе, напісаньне ўсіх прэс-рэлізаў пад капірку з аднолькавымі мэтамі і задачамі, няхай гэта будзе мерапрыемства «Кінь курыць», або спартыўныя спаборніцтвы, або «Прафіляктыка СНІДу», або дапамога гаспадаркам ва ўборцы бульбы.

Іншыя ГА, дасылаючы прэс-рэлізы, ня тлумяць сабе галаву і кіруюцца прынцыпам «сьцісласьць — сястра таленту». Часта ў пошце сустракаюцца прэс-рэлізы, якія ўтрымліваюць толькі час і месца правядзеньня нейкай акцыі. І нават выціснуць дадатковую інфармацыю з арганізатараў бывае праблематычна.

Але не ва ўсіх НДА праца са СМІ знаходзіцца ў зачатковым стане. Асабіста мне падабаецца, як працуюць з прэсай у адной грамадзкай арганізацыі, накіраванай на судзейнічаньне разьвіцьцю бізнэсу. Па-першае, іх мерапрыемствы — прадуманыя, крэатыўныя і цікавыя, як самім удзельнікам, так і журналістам і чытачам. Па-другое, арганізатары загадзя інфармуюць журналістаў аб правядзеньні якой-небудзь акцыі. Прычым падрабязна — што, дзе, калі, навошта, хто будзе прысутнічаць. Пішуць у анонсе пра тое, чым выкліканае правядзеньне такога мерапрыемства, у чым яго асаблівасьць. Прычым арганізатары навучыліся пісаць і дзейнічаць так, каб мерапрыемства было навіной, гэта значыць праводзілася ўпершыню, было масавым, цікавым і асаблівым. Яшчэ з плюсаў работы з дадзенай грамадзкай арганізацыяй адзначу ўменьне прыцягнуць увагу журналістаў і стварыць такую атмасфэру, каб ты адчуваў сябе іх сябрам, ці прынамсі калегам. Нeяк аднойчы, прабыўшы на іх мерапрыемстве да позьняга вечара, я пісала пра гэта матэрыял. Было ўжо за поўнач. Я злавалася: «Усе сьпяць, пабылі на мерапрыемстве і адпачываюць. Толькі я павінная яшчэ ноч пісаць пра гэта і ламаць галаву». Я ўсё ніяк не магла скончыць тэкст — нешта важнае, канцоўка ўсё ніяк не вымалёўвалася. Якое ж было мае зьдзіўленьне, калі каля гадзіны ночы, у пік маіх пакутаў, на электронную скрыню прыйшоў ліст ад кіраўніка гэтай грамадзкай арганізацыі з рэзюмэ праведзенага мерапрыемства і камэнтарамі!



**Неабходна зацікавіць журналіста**

Такім чынам: чаго, на маю суб'ектыўную думку, не хапае НДА ў працы са СМІ? Магчымасьці ці жаданьня напісаць прэс-рэліз так, каб журналіст захацеў прыйсьці на мерапрыемства. Неабходна дасласць інфармацыю загадзя. Таму што калі гэтае мерапрыемства важнае для вас, зусім не гаворыць пра тое, што яно мае такую ж важнасьць для журналіста. Да прыкладу, вы дасылаеце прэс-рэліз за дзень да правядзеньня мерапрыемства, а ў журналіста на гэты час ужо прызначаная іншая сустрэча — больш жвавыя ахвотнікі «трапіць у газэту» дамовіліся загадзя.

Неабходна зацікавіць журналіста. Да прыкладу, калі вы хочаце, каб пра мерапрыемства вашай арганізацыі напісалі навіну, то сама падзея павінная адбывацца або ўпершыню, або з масавым удзелам людзей, або павінная закранаць інтарэсы многіх, быць актуальнай і цікавай. Да прыкладу, мяне нядаўна запрашалі на круглы стол па абмеркаваньні эканамічных праблем у краінах Эўразьвязу. Мне здалося (суб'ектыўна), што ў дадзены момант для чытача быў бы цікавы артыкул пра крызіс, яго прычыны і наступствы ў РБ, а не ў іншых краінах. Безумоўна, сусьветныя праблемы непасрэдна нас датычаць, і закрануць, і адаб'юцца на эканоміцы нашай краіны, але ўсё ж у дадзены адрэзак часу нашых чытачоў у меншай ступені хвалююць праблемы грамадзянаў ЭЗ.

Думаю, што не праблема знайсьці журналіста. На любым сайце — электроннай вэрсіі газэты, навінавага агенцтва — ёсьць кантакты (тэлефоны, электронныя адрасы). Зноў жа, падчас падрыхтоўкі мерапрыемства і падзеі трэба разумець, якому менавіта СМІ гэта будзе цікава. Да прыкладу, думаю, няма сэнсу дасылаць інфармацыю пра пасадку дрэваў у мікрараёне і добраўпарадкаваньні сквэру рэспубліканскаму выданьню. Для гэтага ёсьць мясцовыя газэты і сайты. Але калі падзея мае не лякальны характар, а, да прыкладу, праводзіцца "ўпершыню ў краіне» і ня мае аналягаў — тады можна і трэба запрасіць і рэспубліканскія выданьні.

Асабіста мяне заміло́ўвае рассылка па электроннай пошце адной зь дзяржаўных структураў. Практычна ўсе іх штодзённыя прэс-рэлізы былі проста сумнымі, і ніяк не падыходзілі для навін. Гэта былі маркотныя справаздачы аб праведзеных паседжаньнях-мерапрыемствах, напісаныя ў стылі «засядалі, пастанавілі, пашырыць-звузіць, працягнуць-разьвіць». Прычым фразы «ўсе засталіся задаволеныя, на тварах удзельнікаў мерапрыемства сьвяціліся ўсьмешкі» толькі ўсьмешку (саркастычную) і выклікалі.

Што ж параіць НДА? Працаваць. А каб людзі ведалі пра вашую дзейнасьць, больш актыўна супрацоўнічаць са СМІ. Праўда, можа, некаторым НДА не патрэбная публічнасьць? Ствараецца ўражаньне, што некаторыя НДА ў сваёй дзейнасьці і праўда кіруюцца традыцыяй ананімных алькаголікаў: «Мы павінныя захоўваць сваю ананімнасьць у кантактах з радыё, прэсай і кіно».

У любым выпадку мы выдатна разумеем, у якой краіне і якіх умовах жывем і працуем. У нас мала СМІ (у Гомелі, напрыклад), мала і дзейных, актыўных НДА, якія ўплываюць на грамадзкую думку. Разам з тым, нам ёсьць куды разьвівацца. Давайце рабіць гэта разам. Тым больш што мы ж недзе побач па парадкавых нумарах — трэці сэктар і чацьвертая ўлада.

**Сьвятлана Пятроўская.**



дапаможнік

# Антырэвалюцыйны пакет

**Беларускія праваабаронцы — пра драконаўскія зьмяненьні і дапаўненьні, прапанаваныя да ўнясеньня ў заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Аналітычная нататка падрыхтаваная Асамблеяй дэмакратычных НДА, "Беларускім Хельсынскім камітэтам", Праваабарончым цэнтрам "Вясна" і Цэнтрам прававой трансфармацыі.**

Прадметам дадзенага дасьледаваньня ёсьць аналіз зьмяненьняў і дапаўненьняў, прапанаваных у шэраг законаў Рэспублікі Беларусь восеньню 2011 года.

3 кастрычніка года Палата прадстаўнікоў падчас аднаго паседжаньня адразу ў двух чытаньнях ухваліла праект Закона "Аб унясеньні дапаўненьняў і зьменаў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь". Законам уносяцца зьмены ў шэраг заканадаўчых актаў: "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях", "Аб палітычных партыях", Крымінальны кодэкс, Крымінальна-працэсуальны кодэкс, Выбарчы кодэкс, Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэньнях.

У той жа дзень, 3 кастрычніка, Палата прадстаўнікоў ухваліла Закон "Аб масавых мерапрыемствах". 30 верасьня ў Палату прадстаўнікоў унесены праект Закона "Аб унясеньні зьмяненьняў і дапаўненьняў у Закон "Аб органах дзяржаўнай бясьпекі ў Рэспубліцы Беларусь".

## Зьмяненьні ў заканадаўстве аб масавых мерапрыемствах

Унясеньне гэтага праекта ўрадам у парлямэнт, як нам падаецца, было палітычна абумоўленае акцыямі пратэсту, якія адбыліся ў Беларусі сёлета. Нормы зьмяненьняў закранаюць як парадак арганізацыі масавага мерапрыемства, так і парадак удзелу ў ім.

У артыкуле 2 закона пашыраны панятак такога віду масавага дзеяньня, як пікетаваньне. Да пікетаваньня прыраўноўваецца сумесная масавая прысутнасьць грамадзян у загадзя вызначаным грамадзкім месцы (у тым ліку пад адкрытым небам) ва ўсталяваны час для зьдзяйсьненьня загадзя вызначанага дзеяньня, арганізаваная (у тым ліку праз інтэрнэт ці інфармацыйныя сеткі) для публічнага выказваньня сваіх грамадзка-палітычных інтарэсаў ці пратэсту.

У першапачатковай вэрсіі законапраекта меркавалася ўнясеньне фармулёўкі для "зьдзяйсьненьня загадзя вызначанага дзеяньня ці бязьдзеяньня". Пад ціскам грамадзкасьці тэрмін "бязьдзеяньне" быў прыбраны з законапраекта. Аднак у беларускім праве тэрмін "дзеяньне" разумеецца менавіта як "дзеяньне ці бязьдзеяньне" (артыкул 2.1 Кодэкса РБ аб адміністрацыйных правапарушэньнях). Таму, па сутнасьці, унесеная ў законапраект норма перадугледжвае адказнасьць за бязьдзеяньне. Гэта не адрозьнівае яе ад той, што прапаноўвалася ў першапачатковым выглядзе і выклікала абурэньне грамадзкасьці.

Такім чынам, любы факт сумеснай прысутнасьці грамадзян у загадзя абмеркаваным месцы ўтварае склад правапарушэньня. Прыкметным зьяўляецца дадатковае ўключэньне ў склад магчымых прыкметаў пікета арганізацыю збору грамадзянаў праз інтэрнэт альбо інфармацыйныя сеткі.

У артыкуле 4 уводзіцца абмежаваньне для асобаў, якія прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасьці за парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня масавых мерапрыемстваў: на працягу года пасьля адміністрацыйнага спагнаньня яны ня могуць быць арганізатарамі масавага мерапрыемства. У дадзеным выпадку можна гаварыць аб стварэньні практыкі паразы ў правах.

У артыкуле 5 закона перадугледжанае дадатковае рэгуляваньне правядзеньня масавых мерапрыемстваў з выкарыстаньнем транспартных сродкаў. Нормы дадзенага артыкула фактычна робяць немагчымым правядзеньне такіх масавых акцыяў, бо патрабуюць паказаць у заяўцы ня толькі маршрут руху, але і марку, мадэль, рэгістрацыйны знак транспартнага сродку, прозьвішча, імя, імя па бацьку, месца жыхарства (знаходжаньня) асобы, якая будзе кіраваць транспартным сродкам.

Усталяванае абавязковае ўказаньне "крыніц фінансаваньня" ў заяўцы аб правядзеньні масавага мерапрыемства. У артыкуле 9 закона ўводзяцца дадатковыя аб'екты, паблізу якіх забараняецца правядзеньне масавых мерапрыемстваў. У прыватнасьці, не дапускаецца правядзеньне масавых мерапрыемстваў на адлегласьці бліжэй за 200 мэтраў ад месца разьмяшчэньня рэдакцый сродкаў масавай інфармацыі. Забараняецца аднachасовае правядзеньне некалькіх масавых мерапрыемстваў у адным месцы або па адным маршруце руху. Забараняецца да атрыманьня дазволу распаўсюджваць у інтэрнэце або іншых інфармацыйных сетках інфармацыю пра дату, месца і час правядзеньня масавага мерапрыемства. Прычым дазвол можа быць выдадзены дзяржаўным органам толькі за пяць дзён да даты ягонага правядзеньня.

Згаданыя зьмены значна пашыраюць паўнамоцтвы супрацоўнікаў органаў унутраных справаў, якія атрымліваюць права агароджваць тэрыторыі месцаў правядзеньня масавых мерапрыемстваў, рабіць фотаздымкі, аўдыё- і відэазапіс удзельнікаў масавых мерапрыемстваў, уводзіць прапускны рэжым, патрабаваць ад грамадзянаў пакінуць месца правядзеньня масавага мерапрыемства, калі яны парушаюць грамадзкі парадак і ўсталяваныя законам патрабаваньні, спыняць дасяг грамадзянаў да месца правядзеньня масавага мерапрыемства.

Супрацоўнікі органаў унутраных справаў атрымліваюць права праводзіць асабісты дагляд грамадзянаў і рэчаў, у тым ліку з дапамогай тэхнічных і спэцыяльных сродкаў. У выпадку адмовы грамадзяне не дапускаюцца да месца правядзеньня масавага мерапрыемства. Фактычна ўзаконеныя дзеяньні супрацоўнікаў органаў унутраных справаў на масавых мерапрыемствах да ўнясеньня дадзеных зьменаў.

Закон "Аб масавых мерапрыемствах" і без пазначаных зьменаў меў ярка выяўлены абмежавальны ўхіл і не дазваляў вольна рэалізоўваць права на мірныя зборы. Унесеныя зьмены яшчэ болей абмяжоўваюць правы грамадзянаў. А таксама апраўдваюць у далейшым рэпрэсіі ў дачыненьні арганізатараў і ўдзельнікаў акцый, у тым ліку тых, што праводзяцца з выкарыстаньнем транспартных сродкаў і інтэрнэту.

**Праект Закона "Аб унясеньні дапаўненьняў і зьменаў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь" перадугледжвае зьмену адміністрацыйнай адказнасьці за парушэньне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.**

Артыкул 23.34 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях зьмяняе назву на "Парушэньне парадку арганізацыі або правядзеньня масавых мерапрыемстваў" і выкладаецца ў новай рэдакцыі.

Важным дадаткам да гэтага правапарушэньня зьяўляецца ўключэньне ў яго публічных заклікаў да арганізацыі або правядзеньня сходу, мітынгу, вулічнага шэсьця, дэманстрацыі, пікетаваньня з парушэньнем усталяванага парадку іх арганізацыі або правядзеньня. У спалучэньні з ранейшымі забаронамі (да атрыманьня дазволу на правядзеньне масавага мерапрыемства абвяшчаць у сродках масавай інфармацыі дату, месца і час яго правядзеньня, вырабляць і распаўсюджваць з гэтай мэтай матэрыялы) такая норма будзе ствараць значныя цяжкасьці ў апавяшчэньні грамадзянаў аб правядзеньні масавых мерапрыемстваў.

Захаваны падвышаны памер штрафу ў выпадку прыцягненьня да адміністрацыйнай адказнасьці паўторна цягам года (частка 3). Таксама ўведзеная адказнасьць за ўдзел у акцыі за ўзнагароду (частка 4) ці выдачу такіх узнагародаў (частка 5). Уводзіцца адміністрацыйная адказнасьць у выглядзе штрафу ад двухсот пяцідзесяці да пяцісот базавых велічыняў па частцы 5 артыкула 23.34 для юрыдычных асобаў.

**Праект Закона "Аб унясеньні дапаўненьняў і зьменаў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь" перадугледжвае зьмену Крымінальнага кодэкса з увядзеньнем крымінальнай адказнасьці за парушэньне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.**

Прапаноўваецца дапоўніць Крымінальны кодэкс новым артыкулам 369.3 "Парушэньне парадку арганізацыі ці правядзеньня масавых мерапрыемстваў".

Дыспазыцыя дадзенага артыкула сфармуляваная наступным чынам: "Публічныя заклікі да правядзеньня сходу, вулічнага шэсьця, дэманстрацыі або пікетаваньня з парушэньнем усталяванага парадку іх арганізацыі або правядзеньня, альбо ўцягваньне асобаў ва ўдзел у такіх масавых мерапрыемстваў шляхам гвалту, пагрозаў, падману або выплаты ўзнагароды, альбо іншая арганізацыя або правядзеньне такіх масавых мерапрыемстваў, калі іх правядзеньне пацягнула па неасьцярожнасьці гібель людзей, прычыненьне цяжкага пашкоджаньня адной або некалькім асобам або прычыненьне шкоды ў буйным памеры пры адсутнасьці прыкмет злачынстваў, перадугледжаных артыкуламі 293 і 342 гэтага Кодэкса". Такая фармулёўка дыспазыцыі артыкула 369.3 Крымінальнага кодэкса фактычна дапускае прыцягненьне асобы да крымінальнай адказнасьці без усталяваньня яе віны. Санкцыя артыкула перадугледжвае пакараньне ў выглядзе арышту тэрмінам да шасьці месяцаў, абмежаваньня волі тэрмінам да трох гадоў альбо пазбаўленьня волі на той жа тэрмін.

Праекты падрыхтаваных зьмяненьняў у заканадаўства аб масавых мерапрыемствах супярэчаць Кіравальным прынцыпам АБСЭ па свабодзе мірных сходаў. У тым ліку яны перадугледжваюць прэзумпцыю на карысьць правядзеньня сходаў, абавязак дзяржавы абараняць мірны сход, сувымернасьць абмежаваньняў у дачыненьні да свабоды сходаў і належную практыку адміністрацыйнага рэгуляваньня.

# Зьмены ў заканадаўстве аб палітычных партыях, грамадзкіх аб’яднаньнях і замежнай бязвыплатнай дапамозе.

## Праект Закона “Аб унясеньні дапаўненьняў і зьменаў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь” прадугледжвае ўнясеньне зьменаў у Закон “Аб грамадзкіх аб’яднаньнях”.

У прыватнасьці, прапаноўваецца артыкул 7 дапоўніць часткай 3 наступнага зьместу: "Дзейнасьць грамадзкіх аб'яднаньняў, [іх] саюзаў, скіраваная на судзейнічаньне прадстаўленьню замежнымі дзяржавамі грамадзянам Рэспублікі Беларусь палёгкаў і перавагаў у сувязі з палітычнымі, рэлігійнымі поглядамі або нацыянальнай прыналежнасьцю ў парушэньне заканадаўства, забараняецца". Відавочна, што дадзеная норма ўносіцца ў заканадаўства ў якасьці меры рэалізацыі меркаваньня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь, выказанага ў рашэньні "Аб пазыцыі Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь што да Закона Рэспублікі Польшча "Аб "карце паляка" ад 7 красавіка 2011.

Аднак рэалізацыя гэтай пазыцыі Канстытуцыйнага суда ў выглядзе замацаваньня яе ў заканадаўстве прайшла вельмі няўдала. Уключэньне ў дадзеную норму прыкметы "рэлігійных, палітычных поглядаў" (а не прыналежнасьці да якіх-небудзь грамадзкіх аб'яднаньняў або партыяў) юрыдычна ставіць пад сумнеў дзейнасьць рэлігійных арганізацый, што маюць дачыненьне да замежных рэлігійных і культавых цэнтраў, і прыналежных да адпаведных канфэсіяў вернікаў (іслам, хрысьціянства, юдаізм).

Гэтае палажэньне можа быць відавочна вытлумачанае як падстава для абмежаваньня беларускіх грамадзкіх аб'яднаньняў у працы з замежнымі арганізацыямі па пытаньнях аказаньня матэрыяльнай або іншай падтрымкі грамадзянам, што прытрымліваюцца пэўных палітычных або рэлігійных поглядаў. Напрыклад, Праграма Каліноўскага для студэнтаў, адлічаных з унівэрсытэтаў з палітычных матываў, судзейні-аньне паломнікам падчас арганізацыі візытаў у месцы, зьвязаныя з рэлігійным культам, і гэтак далей.

## Праект Закона “Аб унясеньні дапаўненьняў і зьменаў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь” прадугледжвае значныя зьмены рэжыму прадстаўленьня замежнай бязвыплатнай дапамогі.

Праект удакладняе рэжым выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі, а таксама прадугледжвае дадатковыя абмежаваньні для атрыманьня фінансаваньня палітычнымі партыямі. Аднак пры гэтым значна ўзмацняецца адказнасьць за парушэньне парадку атрыманьня замежнай бязвыплатнай дапамогі.

Праектам прадугледжанае ўвядзеньне ў Закон "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях" нормы, якая забараняе рэспубліканскім і мясцовым грамадзкім аб'яднаньням, іх саюзам захоўваць грашовыя сродкі, каштоўныя мэталы і іншыя каштоўнасьці ў банках і нябанкаўскіх крэдытна-фінансавых арганізацыях, разьмешчаных на тэрыторыі замежных дзяржаваў. Дадзеная забарона аналягічная той, якая дзейнічае ў дачыненьні да палітычных партыяў і іх саюзаў, але не распаўсюджваецца на міжнародныя грамадзкія аб'яднаньні, іх арганізацыйныя структуры, фонды і ўстановы. Пры гэтым у дачыненьні да ўсіх беларускіх юрыдычных асобаў дзейнічае абмежаваньне па адкрыцьці рахункаў за мяжой: пры адсутнасьці дазволу Нацыянальнага банка такое дзеяньне стварае склад крымінальнага злачынства.

Такім чынам, дадзены праект закона ўводзіць дыскрымінацыйную норму ў дачыненьні да грамадзкіх аб’яднаньняў у параўнаньні зь іншымі юрыдычнымі асобамі Беларусі.

### У частцы фінансаваньня праект Закона “Аб зьменаў у некаторыя заусталёўвае абмежаваньні

партыямі ахвяраваньняў ад тых юрыдычных асобаў — рэзыдэнтаў Рэспублікі Беларусь, якія адносяцца да арганізацыяў з замежнымі інвэстыцыямі. А таксама ад арганізацыяў, якія атрымлівалі цягам года, папярэдняга дню занясеньня ахвяраваньня, замежную бязвыплатную дапамогу ад замежных дзяржаваў, замежных арганізацыяў, міжнародных арганізацыяў, замежных грамадзянаў і асобаў без грамадзянства.

Сьпіс дапаўняецца ананімнымі мэцэнатамі. За тым выключэньнем, калі замежную бязвыплатную дапамогу не вярнулі замежным дзяржавам, замежным арганізацыям, міжнародным арганізацыям, замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія яе далі, альбо, у выпадку немагчымасьці звароту, не пералічылі ў прыбытак дзяржавы да дня ўнясеньня ахвяраваньня палітычнай партыі (частка 3 артыкул 24 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях").

Прапаноўваецца таксама пастанавіць, што грашовыя сродкі і іншая маёмасьць, атрыманыя палітычнымі партыямі, саюзамі і створанымі імі юрыдычнымі асобамі з забароненых крыніцаў, павінныя быць перададзеныя ў прыбытак дзяржавы, а пры адмове ад добраахвотнай перадачы яны спаганяюцца ў прыбытак дзяржавы ў судовым парадку.

Нароўні з абмежаваньнем замежнага фінансаваньня паліт-ы





### палітычнай дзейнасьці унясеньні дапаўненьняў і коны Рэспублікі Беларусь” для атрыманьня

чных партыяў прапаноўваецца абмежаваць і атрыманьне грашовых сродкаў у выбарчыя фонды, якія цяпер прадугледжаныя беларускім выбарчым заканадаўствам. Праект Закона "Аб унясеньні дапаўненьняў і зьменаў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь" прадугледжвае ўнясеньне ў Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь наступных абмежаваньняў.

Забараняецца ўносіць ахвяраваньні ў выбарчыя фонды кандыдатаў арганізацыям, якія атрымлівалі цягам года, папярэдняга дню занясеньня ахвяраваньня, замежную бязвыплатную дапамогу ад замежных дзяржаваў, замежных арганізацыяў, міжнародных арганізацыяў, замежных грамадзянаў і асобаў без грамадзянства, а таксама ад ананімных мэцэнатаў. За тым выключэньнем, калі замежную бязвыплатную дапамогу не вярнулі замежным дзяржавам, замежным арганізацыям, міжнародным арганізацыям, замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія яе далі, альбо, у выпадку немагчымасьці звароту, не пералічылі (перадалі) у прыбытак дзяржавы да дня ўнясеньня ахвяраваньня ў выбарчыя фонды. Аналягічную забарону прапаноўваецца ўвесьці і ў дачыненьні да арганізацыяў, зарэгістраваных ва ўсталяваным парадку менш чым за год да дня ўнясеньня ахвяраваньняў у выбарчы фонд.

## Праект Закона "Аб унясеньні дапаўненьняў і зьменаў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь" істотна ўзмацняе адказнасьць за парушэньне парадку атрыманьня замежнай бязвыплатнай дапамогі, прапаноўваючы нароўні з узмацненьнем ужо наяўнай адміністрацыйнай адказнасьці (і магчымасьцю ліквідацыі грамадзкіх аб'яднаньняў і палітычных партыяў за такія парушэньні) увядзеньне і крымінальнай адказнасьці.

Ранейшы артыкул 23.23. КаАП "Парушэньне парадку выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі" зьмяняе аб'ектыўны бок правапарушэньня. Калі дзейная рэдакцыя часткі 2 дадзенага артыкула ўсталёўвала адказнасьць за нямэтавае выкарыстаньне замежнай бязвыплатнай дапамогі або на мэты, забароненыя заканадаўствам, то цяпер дадзены склад уключае ў сябе любое выкарыстаньне замежнай бязвыплатнай дапамогі з парушэньнем заканадаўства. З улікам таго, што беларускае бугальтарскае, гаспадарчае, падатковае заканадаўства, а таксама заканадаўства аб справаводстве маюць шматлікія прабелы і нормы, якія не выключаюць падвойнага тлумачэньня, дадзеная зьмена будзе азначаць фактычную магчымасьць прыцягненьня да адміністрацыйнай адказнасьці любога атрымальніка замежнай бязвыплатнай дапамогі пры наяўнасьці якіх-небудзь фармальных парушэньняў, выяўленых правяральнікамі.

Артыкул 23.24 КаАП, які ў дзейнай рэдакцыі мае назву "Прадстаўленьне замежным грамадзянінам або асобай без грамадзянства замежнай бязвыплатнай дапамогі на мэты, забароненыя заканадаўствам", прапаноўваецца назваць панову. А менавіта: "Парушэньне заканадаўства аб замежнай бязвыплатнай дапамозе". Пры гэтым у частцы 1 дадзенага артыкула спэцыяльны суб'ект і аб'ектыўны бок правапарушэньня засталіся нязьменнымі. "Прадстаўленьне замежным грамадзянінам або асобай без грамадзянства замежнай бязвыплатнай дапамогі на ажыцьцяўленьне дзейнасьці, забароненай заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, цягне за сабой дэпартацыю з канфіскацыяй гэтай дапамогі".

Аднак у гэты артыкул уводзіцца частка 2, якая дапаўняе аб'ектыўны бок дзеі. Атрыманьне, а таксама захоўваньне, перамяшчэньне замежнай бязвыплатнай дапамогі для ажыцьцяўленьня экстрэмісцкай дзейнасьці або іншых дзеяньняў, забароненых заканадаўствам, альбо фінансаваньне палітычных партыяў, саюзаў (асацыяцыяў) палітычных партыяў, падрыхтоўка або правядзеньне выбараў, рэфэрэндумаў, адкліканьне дэпутата, чальца Рады Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. А таксама для арганізацыі або правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацыяў, пікетаваньня, страйкаў, вырабу або распаўсюджаньня агітацыйных матэрыялаў, правядзеньня семінараў або іншых форм палітычнай і агітацыйна-масавай працы сярод насельніцтва. Калі ў гэтых дзеяньнях няма складу злачынства, прадугледжаны штраф у памеры ад пяцідзесяці да двухсот базавых велічыняў з канфіскацыяй гэтай дапамогі. А на юрыдычную асобу — да 100% кошту замежнай бязвыплатнай дапамогі з канфіскацыяй гэтай дапамогі.

Такім чынам, ня толькі

ўзмацняецца адказнасьць юрыдычных асобаў, якія ажыцьцяўляюць дзеяньні з замежнай бязвыплатнай дапамогай. Па сутнасьці, у артыкуле 23.24 заканадаўца, як і ў артыкуле 23.23, вырашыў распаўсюдзіць адміністрацыйную адказнасьць на ўсе магчымыя парушэньні, якія могуць мець месца пры апэрацыях з замежнай бязвыплатнай дапамогай. Фармулёўка "іншых дзеяньняў, забароненых заканадаўствам" у спалучэньні з пашыраным тлумачэньнем знарок неакрэсьленага панятку "агітацыйна-масавай працы сярод насельніцтва" стварае багатую прастору для кваліфікацыі любой дзейнасьці ў межах атрыманьня замежнай бязвыплатнай дапамогі як праваўпарушэньня.

Зьдзяйсьненьне цягам года пасьля накладаньня адміністрацыйнага спагнаньня па частцы 2 артыкула 23.24. КаАП аналягічнага парушэньня перадугледжвае ўжо крымінальную адказнасьць па артыкуле 369.2 Крымінальнага кодэкса "Атрыманьне замежнай бязвыплатнай дапамогі ў парушэньне заканадаўства Рэспублікі Беларусь". І караецца штрафам, арыштам на тэрмін да трох месяцаў, абмежаваньнем волі на тэрмін да трох гадоў ці пазбаўленьнем свабоды на тэрмін да двух гадоў.

У дачыненьні да дадзенага артыкула справядлівыя прэтэнзіі, якія можна прадставіць да фармулёвак часткі 2 артыкула 23.24. КаАП. Тэрмін "іншых дзеяў, забароненых заканадаўствам", у спалучэньні з пашыраным тлумачэньнем знарок неакрэсьленага панятку "агітацыйна-масавай працы сярод насельніцтва", пры наяўнасьці ня зьнятага адміністрацыйнага спагнаньня, дазваляе кваліфікаваць як крымінальную любую дзейнасьць, зьвязаную з атрыманьнем і выкарыстаньнем замежнай бязвыплатнай дапамогі.

Зь іншага боку, юрыдычная трактоўка фармулёўкі "атрыманьне... для ажыцьцяўленьня экстрэмісцкай дзейнасьці або іншых дзеяньняў, забароненых заканадаўствам" дазваляе расцэньваць дадзены склад як фармальны з наўпростым намерам. Неабходны наўпросты намер зьдзяйсьненьня экстрэмісцкай дзейнасьці або іншых дзеяньняў. На жаль, уключэньне ў склад мэты "агітацыйна-масавай працы" практычна дазваляе любую дзейнасьць у кірунку асьветы грамадзянаў кваліфікаваць як перадугледжаную дадзеным артыкулам. У гэтым кантэксьце найбольшую трывогу выклікае таксама ўключэньне ў склад як адміністрацыйнай, так і крымінальнай адказнасьці атрыманьне, захоўваньне і перамяшчэньне замежнай бязвыплатнай дапамогі для фінансаваньня правядзеньня любых сэмінараў, без вызначэньня іх мэты і тэматыкі.

Паняцьці, выкарыстаныя ў пазначаных артыкулах КаАП і Крымінальнага кодэкса, вызначаюцца Дэкрэтам прэзыдэнта "Аб атрыманьні і выкарыстаньні замежнай бязвыплатнай дапамогі" № 24 ад 28 лістапада 2003. Пад замежнай бязвыплатнай дапамогай разумеюцца грашовыя сродкі, у тым ліку ў замежнай валюце, таварах (маёмасьці), бязвыплатна прадстаўленыя ў карыстаньне, валоданьне, распараджэньне арганізацыям і фізычным асобам Рэспублікі Беларусь замежнымі дзяржавамі, міжнароднымі арганізацыямі, замежнымі арганізацыямі і грамадзянамі, а таксама асобамі без грамадзянства і ананімнымі ахвярадаўцамі. Да замежнай бязвыплатнай дапамогі адносяцца таксама беспрацэнтныя пазыкі, унёскі замежных заснавальнікаў (чальцоў) беларускіх некамэрцыйных арганізацыяў, а таксама сродкі, якія перадаюцца ў межах зацьверджаных каштарысаў, прадстаўленыя арганізацыям і фізычным асобам Рэспублікі Беларусь вышэйадзначанымі суб'ектамі.

Важна адзначыць, што ўзмацненьне адміністрацыйнай адказнасьці і ўвядзеньне крымінальнай адказнасьці будзе распаўсюджвацца ня толькі на асобаў, якія атрымліваюць дапамогу ў складзе палітычных партыяў альбо грамадзкіх аб'яднаньняў, але і на іншых фізычных асобаў, не афіляваных з палітычнымі або іншымі аб'яднаньнямі.

Амаль аднachасова зь іншымі актамі зьменены аб'ём замежнай бязвыплатнай дапамогі, не падлеглай рэгістрацыі ў Дэпартамэнце па гуманітарнай дзейнасьці Кіраваньня справамі прэзыдэнта (орган, на які ўскладзеная рэгістрацыя замежнай бязвыплатнай дапамогі, безь якой яе выкарыстаньне зьяўляецца пазапраўным). З 11 кастрычніка 2011 уступае ў сілу пастанова Кіраваньня справамі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 верасьня 2011 года № 10 "Аб унясеньні зьменаў у Інструкцыю аб парадку рэгістрацыі, уліку, атрыманьня і выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі". У адпаведнасьці зь ёй павялічваецца памер замежнай бязвыплатнай дапамогі (са 100 на 500 базавых велічыняў), атрыманай фізычнымі асобамі праз банкаўскія і паштовыя пераводы і падлеглай уліку ў Дэпартамэнце па гуманітарнай дзейнасьці Кіраваньня справамі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь без афармленьня пасьведчаньня аб рэгістрацыі замежнай бязвыплатнай дапамогі. Такім чынам, пры атрыманьні фізычнай асобай Рэспублікі Беларусь праз банкаўскія і паштовыя пераводы грашовых сродкаў для асабістых патрэбаў у памеры да 17 500 000 беларускіх рублёў (каля 1500 еўра) у месяц у Дэпартамэнт па гуманітарнай дзейнасьці зь іх рэгістрацыяй зьвяртацца ня трэба. У той жа час, зыходзячы з суадносеньня нормы, прапанаванай да ўнясеньня ў Крымінальны кодэкс, і нормаў Дэкрэту № 24 можна меркаваць, што выкарыстаньне пазначанай нерэгістраванай у Дэпартамэнце сумы на патрэбы дзейнасьці, пералічанай у дыспазыцыі крымінальнага артыкула, можа тлумачыцца як злачынная дзея і цягнуць адказнасьць па артыкуле 369.2 Крымінальнага кодэкса.

> ***любы факт сумеснай прысутнасьці грамадзян у загадзя абмеркаваным месцы ўтварае склад праваўпарушэньня***

*Згаданыя праекты законаў супярэчаць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі (артыкулы 25, 33, 35, 36), а таксама Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека і міжнародным абавязаньням Рэспублікі Беларусь. У прыватнасьці, Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, Кіравальным прынцыпам АБСЭ па свабодзе мірных сходаў.*

*Поўны тэкст нататкі, а менавіта пра пашырэньне паўнамоцтваў органаў дзяржаўнай бясьпекі і аналіз зьмяненьняў у заканадаўстве аб спэцслужбах і Крымінальным кодэксе чытайце на сайце http://hrwatch-by.org* ■




## Зьмены ў Крымінальным кодэксе

Акрамя ўвядзеньня новых артыкулаў, пазначаных у дадзенай запісцы, праектам Закона "Аб унясеньні дапаўненьняў і зьменаў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь" прадугледжана ўнясеньне зьменаў у шэраг іншых артыкулаў Крымінальнага кодэкса.

Зьменены артыкул 293 Крымінальнага кодэкса "Масавыя беспарадкі". У пералік прыкметаў масавых беспарадкаў уключаны злучнік "альбо", якія стварае альтэрнатыўнасьць гэтых прыкмет. Такім чынам, па сутнасьці, заканадаўца легалізуе тую практыку, якая мела месца ў дачыненьні да ўдзельнікаў і арганізатараў пратэстаў супраць фальсыфікацыі выбараў 19 сьнежня 2010 года.

Пазыцыя адвакатаў па тых справах складалася ў тым, што ў лік аб'ектыўных прыкметаў складу злачынства па дадзеным артыкуле павінныя ўваходзіць усе зь пералічаных зьяваў: гвалт над асобай, пагромы, падпалы, зьнішчэньне маёмасьці, узброеныя супраціў прадстаўнікам улады. Фармулёўка "Арганізацыя масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагромамі, падпаламі, зьнішчэньнем маёмасьці або ўзброеным супрацівам прадстаў-нікам улады" дэзавуюе такую пазыцыю.

Крыміналізуецца зьмяненьнямі ў Крымінальны кодэкс таксама «Усталяваньне грамадзянінам Рэспублікі Беларусь супрацоўніцтва на канфідэн-цыйнай аснове з адмысловай службай, органам бясьпекі або выведвальным органам замежнай дзяржавы пры адсутнасьці прыкметаў здрады дзяржаве» (артыкул 356.1 УК).

Падставы для прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці па дадзеным артыкуле могуць быць адвольна пашыраныя праз нявызначанасьць тэрміна «адмысловая служба замежнай дзяржавы». А таксама праз нявызначанасьць тэрміна «усталяваньне супрацоўніцтва на канфідэнцыйнай аснове». Унесеныя ў Крымінальны кодэкс зьмены могуць стаць інструмэнтам адвольнага прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці асобаў, якія супрацоўнічаюць у розных формах з міжнароднымі арганізацыямі, з замежнымі грамадзянамі і ўстановамі.

# Найменьне некамэрцыйных арганізацыяў

*Пачатак у папярэднім нумары*

**Вольга Смалянка**

***У чым заключаецца працэдура ўзгадненьня найменьня? Якія НКА павінныя ўзгадняць сваё найменьне і зь якім органам?***

Грамадзкія аб'яднаньні падчас стварэньня або зьмены найменьня ў адпаведнасьці з заканадаўствам не павінныя ўзгадняць свае найменьні.

У адпаведнасьці з Указам прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 ліпеня 2005 г. № 302 "Аб некаторых мерах па ўпарадкаваньні дзейнасьці фондаў", узгадненьне найменьня фонду –права яго заснавальнікаў. Указ перадугледжвае, што да падачы ў рэгістравальны орган для дзяржаўнай рэгістрацыі дакумэнтаў адзін з заснавальнікаў стваральнага фонду можа ўзгадніць ягонае найменьне з рэгістравальнымі органамі (рэкамэндуем ствараным фондам узгадняць сваё найменьне, каб пазьбегнуць прыкрых неспадзяванак падчас падачы дакумэнтаў на рэгістрацыю).

Заснавальнікі ўстановы або асацыяцыі абавязаныя ўзгадніць найменьні арганізацыі да падачы дакумэнтаў на рэгістрацыю (зьмяненьняў у выпадку зьмены найменьня).

Узгадненьне найменьняў ажыцьцяўляецца ў адпаведных рэгістравальных органах – Галоўных упраўленьнях юстыцыі Менскага гарвыканкама, Брэсцкага, Віцебскага, Гомельскага, Гарадзенскага, Магілёўскага, Менскага аблвыканкамаў па адрасах:

1. г. Менск, пл. Свабоды, 8/10, тэл. 220-29-01,

2. г. Брэст, вул. Леніна, 11, тэл. 8-0162-21-91-08,



**На этапе стварэньня некамэрцыйнай арганізацыі яе заснавальнікі сутыкаюцца зь неабходнасьцю прыдумаць для яе назву. У дадзеным артыкуле вы знойдзеце адказы на пытаньні, якім чынам лепш абраць найменьне для ствараной арганізацыі ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі беларускага заканадаўства.**

3. г. Віцебск, вул. Праўды, 18, тэл. 8-0212-42-68-93, 8-0212-42-67-78,

4. г. Гомель, пр. Леніна, 2, тэл.8-0232-74-73-69,

5. г. Гародня, вул. Ажэшкі, 3-47, тэл.8-0152-72-32-05,

6. г. Магілёў, вул. Першамайская, 71, тэл. 8-0222-46-84-57,

7. г. Менск, вул. Камсамольская, 12, тэл. 227-66-01, 226-16-15.

На тэрыторыі Гомельскай вобласьці ўзгадненьне найменьняў юрыдычных асобаў ажыцьцяўляюць таксама рай(гар) выканкамы.

Узгадніць найменьне можна ў любым з пазначаных органаў, якія ажыцьцяўляюць дзяржаўную рэгістрацыю.

У рэгістравальныя органы для ўзгадненьня найменьня ізноў ствараной установы можа зьвярнуцца ўласьнік маёмасьці, калі заснавальнікам выступае фізычная асоба або кіраўнік юрыдычнай асобы, альбо прадстаўнік юрыдычнай асобы, калі заснавальнікам выступае юрыдычная асоба. Пры ўзгадненьні найменьня ў рэгістравальны орган зьвяртаецца кіраўнік юрыдычнай асобы – аднаго з заснавальнікаў асацыяцыі – альбо прадстаўнік юрыдычнай асобы.

Для ўзгадненьня найменьня ў рэгістравальны орган заяўнікамі падаюцца наступныя дакумэнты:

- заява ва ўсталяванай форме. Блянк заявы можа быць узяты заяўнікам на афіцыйным інтэрнэт-сайце Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь (http://www.minjust.by), а таксама прадстаўлены заяўніку бязвыплатна пры ягоным асабістым звароце для ўзгадненьня найменьня.

- копія дакумэнта, які пацьвярджае ва ўсталяваным парадку паўнамоцтвы заяўніка (копія загаду аб прызначэньні на пасаду кіраўніка, калі заява падаецца кіраўніком юрыдычнай асобы альбо даверанасьць).

Узгадненьне найменьняў адбываецца як пры асабістым звароце заяўніка ў рэгістравальны орган, так і пры накіраваньні ім дакумэнтаў па пошце. Пры асабістай яўцы заяўнік павінен падаць дакумэнт, які засьведчвае ягоную асобу.

Заяўнік пры звароце ў рэгістравальны орган можа прапанаваць для ўзгадненьня да 10 варыянтаў найменьняў юрыдычнай асобы за адзін зварот. Узгадненьню падлягаюць поўнае і скарочанае найменьні. Найменьне НКА павіннае падавацца на рускай і беларускай мовах (дапускаецца ўключэньне скароту "SOS" у найменьне сацыяльна-пэдагагічнай установы адукацыі – дзіцячая вёска (мястэчка).

Узгадненьне прапанаванага заяўнікам варыянту найменьня юрыдычнай асобы адбываецца ўпаўнаважаным супрацоўнікам рэгістравальнага органа на падставе заявы, якая паступіла па пошце, на працягу двух працоўных дзён, па заяве, пададзенай пры асабістым звароце, – у прысутнасьці заяўніка ў дзень звароту.

Па выніках разгляду найменьняў юрыдычнай асобы заяўніку выдаецца пісьмовае пацьверджаньне аб узгадненьні найменьня па форме, якая зацьвярджаецца Міністэрствам юстыцыі. Пры наяўнасьці падставаў для адмовы ва ўзгадненьні найменьняў заяўніку паведамляецца пісьмова.

Найменьне ня можа быць узгодненае, калі:

- найменьне юрыдычнай асобы супярэчыць патрабаваньням, пазначаным у дадзеным артыкуле;

- у АДР ёсьць запісы аб юрыдычных асобах, якія маюць найменьні, тоесныя найменьням, прапанаваным для ўзгадненьня ў заяве;

- у базе дадзеных узгодненых найменьняў АДР узгодненыя (зарэзэрваваныя) найменьні, тоесныя прапанаваным, і тэрмін іх рэзэрваваньня не мінуў;

- не прадстаўленыя неабходныя для ўзгадненьня дакумэнты, пазначаныя вышэй.

Узгодненае найменьне юрыдычнай асобы рэгістравальным органам уносіцца ў базу дадзеных узгодненых найменьняў АДР і разьмяшчаецца ў глябальнай кампутарнай сетцы Інтэрнэт на афіцыйным сайце Міністэрства юстыцыі.

Заяўнікі, якім узгоднене найменьне, на працягу трох месяцаў з дня ўзгадненьня абавязаныя выкарыстаць гэтае найменьне для дзяржаўнай рэгістрацыі ствараной НКА, дзяржаўнай рэгістрацыі зьменаў дадаткаў, унесеных у статуты, зьвязаных са зьменай найменьня НКА. На пазначаны тэрмін найменьне ствараной юрыдычнай асобы рэзэрвуецца ў базе дадзеных узгодненых найменьняў.

**Рэкамэндацыі Міністэрства юстыцыі па выбары найменьня юрыдычнай асобы (http://startup.bel.biz/content/view/95/55/)**

Найменьне НЕ падлягае ўзгадненьню ў наступных выпадках.

1. Калі найменьне камэрцыйнай арганізацыі адрозьніваецца ад наяўнага ў базе найменьня толькі арганізацыйна-прававой формай. Напрыклад: ТАА (Таварыства з абмежаванай адказнасьцю) "Блеск" – ПУП (прыватнае ўнітарнае прадпрыемства) "Блеск".

2. Калі прапанаваны варыянт найменьня адрозьніваецца ад наяўнага толькі адной літарай і гэтая літара не нясе новай сэнсавай нагрузкі. Часьцей за ўсё гэта адбываецца з замежнымі словамі ў транскрыпцыі. Напрыклад: ТАА "Офистрейд" – ТАА "Офистрэйд", ПУП "РеалТорг" – ТАА "РэалТорг" і г. д. Варыянт найменьня ўзгадняецца пры адрозьненьні на адну літару, калі зьмяняецца сэнс прапанаванага найменьня. Напрыклад: ТАА "ПродТорг" – ТАА "ПромТорг", ТАА "СервисКомплект" – ТАА "СервисКомплекс" і г. д.

3. Калі найменьні адрозьніваюцца адно ад аднаго адной літарай у напісаньні з падвойным паўтаральным зычным. Напрыклад: ТАА "Неонилла" – ТАА "Неонила", ТАА "Мастеркласс" – ТАА "Мастерклас" і г. д.

4. Калі прапанаваны заяўнікам варыянт найменьня на рускай мове супадае зь беларускім варыянтам рускага найменьня, наяўнага ў базе дадзеных (бо ўзгадненьне найменьня адбываецца на рускай і беларускай мовах). Напрыклад: у базе дадзеных АДР ёсьць найменьне ТАА "Родник", а прапанаваны для ўзгадненьня варыянт найменьня – ТАА "Крыніца". Такое найменьне ня будзе ўзгодненае, бо ў ТАА "Родник" у беларускім варыянце найменьня пазначанае ТАА "Крыніца", што пацягне тоеснасьць найменьняў беларускага варыянту найменьня ТАА "Родник" і прапанаванага для ўзгадненьня рускага варыянту найменьня ТАА "Крыніца".

5. Калі ў найменьні выкарыстоўваюцца знакі іншых моваў.

6. Калі да ўжо наяўнага найменьня дадаецца "прыстаўка", якая не зьмяняе сэнсу найменьня, а толькі паказвае на тое, што ізноў створаная юрыдычная асоба зьяўляецца даччынай або залежнай у дачыненьні да дзейнай юрыдычнай асобы. Напрыклад: у базе дадзеных ёсьць юрыдычная асоба з найменьнем ТАА "Квартирный вопрос", а прапанаваны варыянт найменьня – ТАА "Квартирный вопрос-М" або ТАА "Квартирный вопрос-1". Разам з тым, прапанаваны варыянт найменьня ўзгадняецца пры ўмове, што заяўнікам ізноў ствараной юрыдычнай асобы будзе атрыманы дазвол на выкарыстаньне часткі найменьня дзейнай юрыдычнай асобы.

7. Калі ў прапанаваным варыянце найменьня выкарыстоўваюцца агульнавядомыя гандлёвыя маркі юрыдычных асобаў. Напрыклад: "Золотая капля", "Савушкин продукт" і г. д.

8. Калі прапанаванае і існае найменьні адрозьніваюцца па напісаньні, але сугучныя паміж сабою да ступені зьмяшэньня. Напрыклад: "Аквелон" – "Аквилон" – "Оквилон" – "Оквелон"; "Криница" – "Крыница" – "Крыніца"; "Реал" – "Рэал" – "Риал" – "Рыал".

**Найменьне арганізацыі ўзгодненае**

# CONTENTS


















**СВАБОДУ**
**Алесю Бяляцкаму**



# Хочаш быць пачутым?




# Лістуй!